ЯСАКАР (З. БЯДУЛЯ)

# ПАД РОДНЫМ НЕБАМ

БЕЛАРУСКАЕ КООПЭРАЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЕ
ТАВАРЫСТВА „АДРАДЖЭНЬНЕ“. МЕНСК, 1922.

## БЕЛАРУСЬ.

### I.

Ты—летапіс з аповесьцяў вячыстых,
Акроплены сьлязамі дудароў.
Ты— [illegible]снацьвет ад водгульляў агністых
Жняёў, касцоў і старцаў-пастыроў.

У залатой кудзелі гучных сьпеваў
Дрыжыць твой бор, сумуе твой гушчар.
Дзед-чараўнік стаіць пад кожным дрэвам,
Балота сьпіць пад вэльмам зорных чар.

Твае лугі сьняць сны аб гуках ночных,
Аб вогнішчах начлежных дзяцюкоў.
Пад гуд віхроў, варожбаў сьвета-змрочных
Тчэ глебны дух абраднасьці вякоў.

Сам Госпад-Бог хадзіў тут па зямліцы,
Усюль зіхцяць-відаць Яго сьляды.
Па тых сьлядох красуюцца капліцы,
Па тых сьлядох брыдуць у даль дзяды.

Зышліся тут Ярыла з Божым Сынам,
Сьвятая Маці з Доляю жыве.
Ў цяні дубоў пад старадаўным тынам
Ільля й Лясун расьселіся ў траве.

Тут кожны крок абвеен казкай сівай,
Што ручаёк—жалосных сьпеваў жмут.
Шурпаты пень на лузе, ці на ніве—
Нязнаны дух, або таемны цуд.

Тут воўк—ня воўк, а чалавек закляты,
Тут корч—ня корч, а той-жа селянін.
А бусел-птух—ня птушка, а араты,
Вартуе дзіў абшар лугоў, далін.

А курганы, а замчышчы, званіцы,
А пустыроў сьвятая цішыня;
А гнёздаў-мест ліхтарні-зараніцы,
А вышкі гор, а рэчак глыбіня...

Усё жыве жыцьцём Дзядоў адвечных,
Тут кожны век пакінуў знак-пячаць.
Па тых знакох—па тых шляхох па млечных
Ідуць сыны свой край адбудаваць.

І край магіл, той край, дзе жыў Скарына,
Зноў парадзіў прарокаў і байцоў:
Ідуць-брылуць, бы Нёман з месца рынуў,
Бы грамада узброеных касцоў.

Іх кліч грыміць, як зычны хор грымотаў,
Як буралом, імчыць у горны сьвет.
Дрыжыць зямля ад нізаў да высотаў,
Праменьніць даль Купальскі агняцьвет.

Васкросьлі зноў багі сівых Калядаў,
Ратай ім сьпеў кідае на агонь.
Хто на аўтар падсыпне зельле здрады,
Таму ўвесь край шле жудасны праклён.

II.

Ёсьць шмат такіх, што да Цябе плячыма,
Маць-Беларусь, адвернуты стаяць,
На Ўсход, Заход халопскімі вачыма,
Як вапрукі зьдзічэлыя, глядзяць.

Грызуць яны тваіх дубраў насеньне,
Іх кпінаў гаць забрызгана гразьзёй,—
У глыб зямлі ўвайшло Твае карэньне,
Лясы шумяць высока над Табой.

Ты зноў жывеш, бо Ты ня знала сьмерці,—
Магутны дух мацнеў ад роду ў род.
Твая душа, шчыр-думы Твайго сэрца
Расьлі-цьвілі з народу ды ў народ.

Сама, Сама наладзіш сваё веча,—
Разьбілі сталь адгукі вешчых струн.
А хто пачне чыніць тут злыя рэчы,—
Таго заб'е наш волі бог—Пярун.

Сама, Сама адзначыш свае межы,
Без дапамог няпрошаных дзядзькоў.
Ты забярэш, што да Цябе належа,
Маць-Беларусь, спакон глухіх вякоў!

1922 г.

## ПАД НЯВОЛЯЙ.

I.

Шмат коп маладзікоў, лік ветахаў такі
На бірцы векавой адзначана крывёю.
Ішлі-плылі гады і соваліс вякі,
Аблокам зьдзек вісеў над роднаю зямлёю.

І розныя арлы і розныя крукі
Мянялі сьцягаў цьвет, краіна, над табою.
Гудзеў страшны бізун бязьлітаснай рукі,
Замоўк наш вешчы дух у бою, ці бяз бою.

Як спадчыну для нас тут кожны пан свой сьлед
На глебе пакідаў у выглядзе руінаў.
У вогнішчы, ў крыві купаліся даліны.

Пазьнішчаны лясы. Абшар, як лысы дзед,
І рэчкі высахлі на многа-многа лет,
І жудасьці стаяць над хатай селяніна.

II.

Палонілі ратая гожым, хлусным словам,
Згібалі яго карк цярплівы да зямлі.
Аддаў народ наш моц агідным, ночным совам,
Якія Беларусь, як хмары, аблеглі.

На вечна стары лад пад новым зычным зовам
Няведама куды багацьці нашы йшлі.
Народ цярпеў-маўчаў: пад гартаваным ковам
Ён гадаваў свае ад працы мазалі.

Гасьцінны беларус карміў цьму дармаедаў,
Іх выпраўляў у сьвет на рынкі гандляваць,
Дзе налаўчылісь край за грошы прадаваць.

Там ладзілі дзяльбу, як хто хацеў, як ведаў,
Стуль саранчой плыла да нас чужая рацъ,
Аж плакалі званы над могліцай Рагнеды.

1922 г.

## ПАХОДНІ.

На плітах алатырных залатых вякоў,
На сочнай глебе сказаў з княжацкіх учынаў,
На красках простых сьпеваў простых мужыкоў,
Над плоймай струнных гукаў гучных адпачынаў
Агнеюцца паходні.

Іх водблескі рунеюць многа соткаў лет,
Квітнеюць, як лілеі казачнай крыніцы.
А кожная з паходняў—сонца-сяміцьвет,
Якое мкнецца ўвышку, з яркай заранїцай
Спрачаецца удодні.

Адвечныя скрыжалі роднае зямлі
Хаваюць нашы скарбы, носяцца над краем,
Паказываюць жыва, як дзяды жылі,
Гавораць нам яскрава, што мы мелі, маем
Ад песьняроў-прарокаў:

Баянаў сын-насьледнік,—Ігара гусьляр,—
Пакінуў нам на славу песьні залатыя.
Праз восем праз сталецьцяў з краю ценяў, мар
Прышлі да нас, як госьці, птахі-гусьлі тыя,
Бы зьяньне праз аблокі.

Пад попелам пад пылам манастырскіх крат
Знайшлі стары пергамэнт песьняў пад заховай.
Народы і плямёны, кожны на свой лад,
Гардзіліся знаходкай Ігарава Слова,
Эвангельлем славянаў.

Пад месяцам, пад сонцам Полацкіх капліц,
Пад сьпеўнымі званамі залачоных вежаў,
Пад паляўнічым рогам ў явах таямніц
Зьявіўся наш Скарына кветкай родных межаў,
Вясёлкай з-пад туману.

На мове паспалітай простых пастыроў
Тлумачыў ён пракароў сказы-сьвятапісы.
Жыў твор яго ў народзе, нібы ў жылах кроў,
Праменіўся над краем сонечнаю рысай,
Аздобаю нябёснай.

Пад замкам Гэдыміна над ракой Вільлёй
Яшчэ адзін тастамант славіў нашу долю:
То быў Літоўскі Статут. Праўдаю сьвятой,
Імпэтнаю Пагоняй мкнуўся ён па полі
І па даліне роснай.

Яшчэ было паходняў па дарозе шмат,
Якія нам сьвяцілі ў цемры доўгай ночы:
Вянок народных песьняў хварбамі багат;
І хмеліць сэрца, душу, зьяньнем сьлепіць вочы,
Вянок наш мятарутны.

Ці помніце вы песьні аб сваіх дзядох?
Ці бачыце паходні, родныя саколы?
Ці пойдзеце наперад па сьвятых сьлядох?
Ці будзеце сьвяціцца ў родным творчым коле?
Ці будзеце магутны?

1922 г.

## А Р А Т Ы.

Панясу кавалю
Скарб-саху я сваю.
Ён ачысьціць нарог
На вялікіх агнёх.
Молат гучна грымне—
Ржа-луска адпадзе.
Скарб-саха не на жарт
Будзе мецць моцны гарт.

Па шнурох-пустырох,
Па зьдзічэлых палёх
Буду глебу раўняць,
Буду поле араць.
Шыр запахне ральлёй,
Жыватворчай зямлёй.

Там, дзе страхі былі,
Дзе гарматы раўлі,
Там, дзе сьмерці садом
Папяліўся агнём,
Дзе дымілась расой,
Чалавечай крывёй
Пад стагнаньнем зямля,—
Пойдзе праца мая.

Што прайшло, то—нішто,
Я ўзмацнею ў раз сто.
Загрыміць, закіпіць,
Загудзіць, зашуміць,
Загарыцца ў грудзёх,
Заіскрыцца ў вачох.
Устрахну галавой,
Узмахну я рукой,
Запяю з зор да зор
На бязьмежны прастор.

З неба сонца зірне,
Як дыван, рунь блісьне,
Заблішчыць васілёк,
Задыміць каласок.
На зажынках—гульня,
На дажынках—гульня.
Будзе піва і мёд,—
Ахмялее народ.
Шмат гадоў, многа лет
Будзе хлеб на ўвесь сьвет!

1922 г.

## НА ПРАДВЕСЬНІ.

Аздобіў Сакавік у златаблеск даліны,
Быў чысты, нібы шкло, абшар-прастор нябёс.
Сінь-даль адзела туль з сярэбранай тканіны,
Здалёку цёмны бор вяршалінамі трос.

Крахтаў лядок—па ім ішоў Ярыла ціха,
На зімніку старым ляглі яго сьляды.
Над ім лунаў прамень агнёваю арліхай,
За ім ішлі-брылі прыслужнікі-Дзяды.

Іх постаці расьлі, як дрэвы дзікай гушчы,
Трымалі на руках адвечную Вясну.
Чуваць быў лёгкі шум: шло набажэнства ў пушчы,
І патаемны звон будзіў зямлю ад сну.

На кожным дрэве-пні мігцелася бажніца,
Хаваў яе ад вэч рухлівы аганёк.
Над кожным дрэвам-пнём сьвяцілася крыніца,
Ляжаў на ёй брўском бруштынавы лядок.

Карчы пляліісь вакол, цямнелі, як мурыны,
Як дзікая ганьня няведамых зьвяроў.
Блішчэлі, як крышталь, пад лёдам азярыны,
Туманілася цішь над каркам пустыроў.

Сьцяжарні тут і там на ўзгорках лугавінаў,
Як дзіды, тырк і тырк у ціхі карагод.
На лёдзе між кустоў ірдзеліісь журавіны,
Бы кропелькі крыві на чыстым люстры вод.

Увосені да іх пад невадам туману
Не дапушчаў дзяўчат багністы страх балот.
Як той закляты скарб, былі яны схаваны
Ад воч і рук людзкіх на ўвесь зімы пралёт.

Празрысты быў лядок, як з павуціны сетка,
Багно было пад ім відочна ў цішыне.
Пад жылістай лазой, дзе вадзяныя кветкі,
Русалка ў глыбі вод хавалася на дне.

Мяцеліцы яе заштосьці пакаралі,—
Пад лёдам да вясны ёй загадалі спаць.
Іскравіліся на ёй з суніц-брусьніц каралі,
Вужаку на грудзёх прымусілі трымаць.

Як мордачкі ягнят, тырчэлі яе грудкі,
Жадалі шчыкатаць да сьмерці дзяцюкоў.
Між шоўку валасоў блішчэлі незабудкі,
Твар абвілі, бы хмель, пляцёнкамі кусткоў.

Разрэзаным грыбком былі адкрыты губкі,
А колеры на іх, як макаўкі, цьвілі.
Як брызгі малака, бялелі яе зубкі,
Між іх вуглём чарнеў малы камок зямлі.

З-пад вадзяных лілей пажоўклых і дрыжучых
Чуваць быў лёгкі шэпт, дрымотны подых-згук.
З-пад залатой лускі, з-пад бурбалкаў бліскучых
Прыкметны былі ледзь абрысы ног і рук.

Русалка сон прарве, праб'е лядок рукою
І пойдзе расьсяваць пралескі па зямлі.
І запяе Вясна ў праменьнях над ракою,
Наладзіць шчодры баль на пухавой ральлі.

1922 г.

## ЛЕТНІК.

Па летніку грэбля
Вядзе да ракі.
Мільгаюць абапал
Сямейкі-кусткі.

Праменісты ветрык
Ківае, трасе
Бярозку крывую
У кашульцы, ў расе.

На купіне зыбкай
Тырчыць мухамор,
На шапцы чырвонай
Шмат беленькіх зор.

На ножцы бусловай
Сабачы грыбок
Уверх падымае
Свой жоўты чубок.

А порхаўка млее
Пучочкам-канцом
На моху ў гняздочку
Птушыным яйцом.

Вакол сыраежкі
Сунічкі блішчаць:
Сунічкі—ёй дзеткі,
Грыбочак—ім маць.

За пнямі-карчамі
Маліньнік густы
Ў аправе калючай
З травы-асаты.

А яшчарка-цнотка
З агнём у вачох
У хованкі з жабай
Гуляе ў карчох.

Во зьніклі-прапалі,
Няма іх нідзе:
Адна—паміж травак,
Другая—ў вадзе.

А вожык здалёку
Паўзе з-пад кустоў,
І яшчарку й жабу
Ён зглымзаць гатоў.

А з вожыкам жарты,—
Дык жарты з агнём,
Удужкі бярэцца
Ён нават з вужом.

Каб конь, як той вожык,
Калючкі-бы меў,—
Ён многа на сьвеце
Тады-б нашумеў.

У мутнай рудаўцы
Ляжыць мшалы пень,
Мятлічак пужае,
Як жудасны цень.

Камарыкі жвава
Круць-верць, нібы шрот,
Гудзяць, як пчалінкі,
І будзяць чарот.

Усюды іх поўна,
Бясконца іх ёсьць.
І колюцца блазны,
Як вострая восьць.

Кусаюцца гады,
Дзе дзецца няма,
Няма проста рады,—
Напалі, як цьма.

Ад іх бараніся,
А то загрызуць,
Да косткі апошняй
Са смакам зьядуць.

А грэбля крывая,
Як той паясок,
То зьверне направа,
То зьверне набок.

І цягнецца цягам
І жэрдзі квах-квах,
А сук часам шлёпне
Цябе па нагах.

Во грэбля да броду
Цябе давядзе,
І кіне ля рэчкі
Ў вялікай бядзе.

У рэчцы па пояс
Абхопіць вада;
Няма тут чаўночка
О, гора-бяда;

Пясок залацісты
Хрусьціць спаміж ног,
А рыбка мільгае,
Як месяца рог.

І дно пад табою
Ляжыць, як абрус.
Гальлё там пляцецца,
Як волата вус.

Бы-ўюн, апалонік
Круць-верць туд і сюд,
Ён бурбаўкі лічыць,
Хварбуэ іх—цуд.

Шмат скарбаў ты бачыш
Багатых у міг,
Аднак адным махам
Ня скажаш аб іх.

Брыдзі па вадзіцы,
Як той вадзянік,
Ты ў вопратках мокрых,
Як дзед-чараўнік.

Зато, як прабраўся
На бераг другі,—
Ты бачыш паляны,
Ты бачыш лугі.

Там кветкі, як зоркі,
Травіца, як пух,
А колькі пстрыкатых,
Скрыдлатых пяюх!..

А далі якія,
Дымяцца, як дым...
Вунь. хмарка чаўночкам
Блішчыць залатым.

Вунь, комін хацінкі
Ў аблокаў ланцуг
Уткнуўся, як шпілька
Ў бавэлны хвартух.

А далей смуткуе.
Як схімнік, сыр-бор;
Густой барадою
Ён душыць прастор.

А ў лесе так жутка,
Вільготна ў цяні;
Ў гушчары цямнютка
Ў пагодныя дні.

Лясун там пануе,
Крычыць «го-го-го!»
Ваўчышчаў пасе ён,
Там страшна,—ого!..

А дрэвы стуль вабяць
Дзесяткамі рук,
Па імені кліча
Няведамы гук.

Здаецца, задушыць
Там віламі дуб,
Корч высмакча сок твой
Дзесяткамі губ.

Іголкамі ёлка
Цябе заклюе
І шышкамі вочы
Асьлепіць твае.

Там ведзьмы страшныя,
Хоць гаць з іх гаці.
Ад іх ні прабрацца
Туды, ні прайсьці.

Ня бойцеся толькі,
Ідзіце скарэй,—
Пужаюць наўмысьне
Так малых дзяцей.

Няма там злых ведзьмаў,
А пень той—як пень,
Сячы колькі трэба
І ўночы і ўдзень;

А воўк не зачэпіць
Дальбог, між людзей
Бывае часамі
І зьвера страшней.

З мядзьведзем ты можаш
У згодзе там жыць,
Ліпцовыя соты
Ён будзе насіць.

Мядзьведзь у суседзтве—
Найлепшы сусед,
Ён дзетак галубіць
І песьціць, як дзед.

А з пнямі так сама
Ў цябе будзе лад,
Іх шэпту, іх казкам
Заўсёды ты рад.

Арэшнік, асіны
Ў лясной глыбіне
Табе таямніцы
Раскажуць свае.

І дуб табе—братам,
І хвойка—сястрой,
І цёткай—бярозка,
І ёлка—кумой.

Па летніку цягне
Бясконца брысьці:
Шмаг цудаў у хвілю
Тут можна знайсьці.

1922 г.

* * *

Жар-сонца пячэ. Гарачы дзень вясны.
Стаіць стромкі бор высокім шчытным тынам.
Жывіца-смала па зморшчынах сасны
Цячэ ручайком—растопленым бруштынам.

Прайшоў тут сякач, пакінуў знак на пні,
Параніў на жарт красуню-баравіну;—
І сок, як алей, плыве аж да зямлі,
На верас імчыць з-пад белі сэрцавіны.

І хмеліць смала, і п'яніць сочны пень,
І радасьць бярэ, што пахне так жывіца.
І хочацца ў даль пайсьці ў вільготны цень,
Душой адпачыць пад булькань нем крыніцы.

1922 г.

НАВАЛЬНІЦА.

Апранута ў ліс цях мядзяных
Гудзіць і рычыць па палянах,
Бушуе і бухае бура.
Прытуліцца моцна да дрэва,
Засьвісьне направа—налева,
Зацягне жалобу хаўтураў.

Закрэхча, заенчыць, заскача,
Ой, трызну рыхтуе—няйначай!
Раве пад карчом, прычытае,
Б'е голаў аб камень вільготны,
Шугае на лог на балотны,
Як ведзьма шалёная тая.

Нямее на рэчцы сталёвай,
Знаходзіць на плёсе захову,
Качае кусты каля броду;
І меліць пясок і пытлюе,
Заводзіць сваё алілялюя
Нязнанае, дзікае зроду.

А хмары, сінь-чорныя хмары—
Як совы, як зданьні, як мары,
Задумалі чорную думу;
Пад небам вісяць, як абрус той,
Іх многа над полем, іх густа,
Аж цёмна ад іхняга тлуму.

Маланка пляце агнявіцы:
Па небу значкі-бліскавіцы
Пашлі мігацець, сьляпіць вочы;
А гэтыя блескі бяз меры,
Як пісаны верш на паперы,
Чытае пярун і рагоча.

Любуецца рытмам і складам,
Любуецца музыкай, ладам.
Трах-трах! раз і два!—проста люба!
Ляскоча-малоціць цапамі,
Агнёвымі сыпле снапамі
І сьвету прыносіць загубу.

А хмары цямнеюцца болей
Над дзікім балотам, над полем,
Бы ноч над гушчарам сасновым;
І плача і жаліцца неба:
Лупцуе сьлязамі па глебе,
Лупцуе патопам дажджовым.

І зьмеіцца рэчка жывая,
Абшар берагоў залівае,
Паводкай імчыцца шалёнай.
А бура пад крыжам галосіць,
Ратунку і літасьці просіць,
Як маць над нябошчыкам стогне,

1921 г.

## — А Ў Б А Р Ы...

А ў бары, а ў бары стаіць гуд.
Шэпты граюць па струнах-галінах.
Апранаюцца ў месячны пуд
Іглы-пні на пуховых купінах.

Кожны цень, кожны цень наўскос
Каля пня дрэмле-сьпіць кволай плямай,
Убіраецца ў панцеркі рос.
Мох вакол—аксамітавай рамай.

Чуеш сьпеў, чуеш сьпеў з глыбіні,
Што плыве з лясуновых прысадаў;
Чырванеюцца макі - агні;
Ня ідзі ты да іх—гэта здрада.

—Да мяне, да мяне ў мой шацёр!—
Пад карчамі праменіць альтанка...
Апчасьлівішся музыкай зор
Усю ноч—аж да самай заранкі.

Будзеш сьніць, будзеш сьніць дзіўны сон,
Запалуеш русалчыны губкі;
Закрасуецца кветкай твой стогн
На грудзёх у дзяўчыны-галубкі.

—Ой, ня йдзі, ой, ня йдзі да яе,
Бо зацягне злы дух у балота;
Заварожаны кур запяе
Над чароўным, над чулым чаротам.

Ціхі сказ, ціхі сказ-загавор
Затуманіць цябе шэптам-хмелем;
Закалышыцца ўпоўначы бор
Над тваім над таёмным вясельлем.

Дзень за днём, дзень за днём рыне ў шлях,
Ночка пойдзе імглістай хадзьбою;
Зажалобіцца жудасны страх,
Будзе крыжам вісець над табою.

Тваю кроў, тваю кроў вып'е здань,
Выжме з жылаў яе да крапінкі.
Сьмелым вокам на бор гэты глянь
І ня йдзі да русалкі-дзяўчынкі!

1921 г.

## СТАРАРЭЧЫШЧА.

Калісь тут плыла жывая рака,
Гулялі чаўны па плыні вады,—
Цяпер тут чарот, трава-асака,
Цяпер тут пясок маўчыць ад нуды.

А рэчка адсюль зьвярнула набок,
Прабіў новы шлях вясновы імпэт;
І смутны стаіць забыты лужок,
Дубочак на ім сухі, як шкілет.

Бяз рэчкі, вады няма тут жыцьця,
Няма тут душы, маркотна да сьлёз.
Вісіць над усім труна забыцьця,—
Аджыўшае ўсё спаткне такі лёс.

1922 г.

## ЗМРОКІ.

Змрокі тканінай шурпатай спавілі нямыя абшары.
Змрокі дажджом з густых ценяў набрызгалі ціхія чары.
Змрокі да пнеў прытуліліся, як старчыхі, ў чулым гушчары

Сполахі-страхі лунаюць над блізьзю, над шырай, над даляй
Птахамі жудаснай сьмерці да могліцаў шэрых прыпалі.
Крыж каля крыжа чарнее, бы шэрагі шыбельніц-паляў;

Здані вылазяць са шчылін з палудзеных шчытных заховаў,
Цёмнай сям'ёю блукаюць і шастаюць дрэвам хваёвым.
Сосны вядуць свае шэпты працяглаю песьняй-замовай.

Чорныя сейбіты ночы пануюць да самага раньня,—
Покуль над рэчкай журлівай ня блысьне сівізна ў тумане,
Покуль пажарышча неба на роснае поле ня гляне.

Змрокі тады прападаюць, як быццам валокны з вільготы,
Змрокі тады трацяць сілы, бы раніцай сны і дрымоты,
Змрокаў тады праглытае пявучы абшар срыбна-злоты.

1922 г.

## — БЕЗДАРОЖЖА.

Між поля, між балот, сярод лугоў-далінаў,
Як вялізарны вуж, ляжыць вясеньні шлях;
Разълёгся жабраком уздоўж гняздоў-хацінаў,
Пад сеткаю вільгот яго трывожыць страх.

А плечы яго скрозь паранілі калюгі,
Каменьні, гразь па ім—апраткаю жуды.
А на яго грудзях фурманкі, як зьвяругі,
Прабілі пругкі слой, углыбілі сьляды.

Пад ціскам кол і ног, пад цёпканьнем марудным
Балюча крэхча шлях і пырскае гразёй;
І заглушае боль віхром гушчар бязьлюдны,
І неба льецць па ім дажджліваю крывёй.

Так дзень за днём брыдзе ў вясеньняй непагодзе
І затуляе шлях імглістым туманом.
Вятрышча круціць лес у вечным карагодзе,
Вакол навозіць сум галошаньнем-выцьцём.

Няхай ужо скарэй над жудасным абшарам
Пранасіцца, як здань, зімы сьняжысты гуд.
Няхай ужо скарэй пад ільдзяным пажарам
Палоніць шыр зямлі бялява-пухкі цуд.

Ой, хочацца ў глушы паслухаць веі казку,
Набачыць блеск сьнягоў пад сьпевам завірух...
Мільгніце, матылькі -сьняжынкі,—неба краскі,
Ляці скарэй, зіма, як белазорны птух!

* * *

Між поля, між балот, сярод лугоў-далінаў
Ічыць вясновы шлях, як доўгалежны пас.
Бы волат малады, ён дрэмле між хацінаў,
Ляжыць ён—у вадзе затоплены абраз.

Ён з-пад вады блішчыць бруском з ільдоў каравых,
Па ім сьляды лапцёў, знак срыбных палазоў,
Са шляху хваля вод вясновых сініх, жвавых
Сьцірае сказ зімы, пісьмёны маразоў.

А сонца б'еца агнём у волава паводкі,
Бы дарагі метал, растаплівае лёд.
Мільгаюць па вадзе над вешнім полем лодкі,
Цяпер, як акіян жвіровы летні брод.

А птушкі ў вышыне наладжываюць сьвята,
Рыхтуюць над зямлёй вясновы зычны баль.
А даль аж сьлепіць зрок,—даль яснатой багата,
А неба над зямлёй празрыста, як крышталь.

Няхай ужо скарэй зазелянеюць ўзгоркі,
Хай выб'е ўверх мяжа пралеску хоць адну.
Ідзіце на зару, дзяўчаткі, кветкі, зоркі!
Ідзіце на гумно і гукайце вясну!

1922 г.

## СЬНЯЖЫНАЧКІ.

Сьняжыначкі-пушыначкі,
Як матылькі ляцелі;
Як красачкі-пралесачкі,
Над хаткамі блішчэлі.

Бялеліся-мігцеліся
Ў багатыя калёры,
Драбнюткія-пякнюткія,
Як зораньні, як зоры.

Насіліся-кружыліся
Над ціхімі палямі,
Далінанчкі, сьцяжыначкі
Пакрылі дыванамі.

Над ёлкамі, над хвойкамі
Шапталі свае песьні:
«Як смутна тут, пакутна тут,
Тут страшна, тутка цесна...»

«У хмараньках—пры матаньках,
У срыбным у замчышчы
Сьпявалі мы, скакалі мы
І ладзілі ігрышчы».

Сьняжыначкі-пушыначкі
На Бога наракалі:
«Нас кволенькіх-вясёленькіх
На полі растапталі...»

1921 г.

## СЬНЕГ.

Мо' гэта белыя лебедзі
Сыплюць са скрыдлаў пушыначкі,
Кропляць, як дождж густы?
Мо, гэта срыбныя невадзі
Кідаюць з рыбак пыліначкі,—
Лускі на дрэвы, кусты?

Мо' гэта сейбіт стрывожаны
Сее зярняткі маленькія
З хмарак - сявалак з высот?

Мо' гэта скарб заварожаны,
Кволыя пэрлы маленькія
Падаюць з неба, як шрот?

Мо' гэта белыя зорачкі?
Мо' гэта з воблачкаў пчолачкі?
Мо' гэта райскі бабок?
Мо' гэта кветкі крыштальныя?
Шлюбныя вэльмы русальныя
Хтосьці скубе на пылок?

* * *

Сьнег...
Падае, падае, падае.
Ткуць абрусы на зямлі
Ведзьмы-ткачыхі старыя;
Ведзьмы вялікай грамадаю
Дрэвы і хаткі спрялі
Ў цуды-курганы сівыя.

Сьнег...
Сеецца, сеецца, сеецца
На расьцяробы, лугі
Праз невядомыя сіты.
Ў вочы мільгае, бялеецца;
Хорамы там—не стагі,
Волаты ўбраліся ў сьвіты.

Сьнег...
Кружыцца, кружыцца, кружыцца,
Беліцца мглісты абшар,
Стыгне, як бог мармуровы;
З ветрам між дрэвамі дужыцца,
Бухае белы пажар,
Мрее асілак хваёвы.

Сьнег...
Сьцелецца, сьцелецца, сьцелецца,
Божа пярына—пасьцель

На адзінокіх пуцінах.
Ой, разгулялась мяцеліца,
Ў шматы рве гладкую бель
На барадатых купінах.

Сьнег...
Носіцца, носіцца, носіцца
Ў дзікай шалёнай гульні,
Круціць на розныя лады.
Моліць гасьцінец і просіцца:
«Жартачкі, цэлыя дні
Будзь падарожнікам здрадай!»

«Вабіш іх бельлю сьнягоў,
Вабіш іх гладзьдзю бліскучай,
Каля лясных берагоў
Ёлкаю дражніш скрыпучай».

«Дзін-дзін—званочак зьвініць,
Лясь-лясь—драпянка ляскоча,
Дрыж-дрыж—каняка дрыжыць,
Стоп-стоп—у яму йсьці хоча».

Кліча хтось з глыбі хваёў,
Кліча, заве па імені,
Кліча ў гушчар фурманоў,—
Проста, ня знойдзеш збавеньня.

Гінуць у белых палёх
На мягкапушных пярынах,
Гінуць у белых агнёх,
Ў ярка-сівых дамавінах.

Вея шапоціць ім сны,
Белыя, сьнежныя казкі.
Стыгнуць, гібеюць яны
Пад заварожанай ласкай.

1921 г.

## У ДЗІЧЫНЕ.

Сіва-сіняя поўнач задумна
Глядзіць з-пад карчышчаў
На зоркі—крывавыя краскі
Нябёснага поля нямога.
Хвоі,—ведзьмы праклёныя,—сумна
Між снежных замчышчаў
Зацішна стаяць, нібы маскі
Да байкі, да сказу страшнога.

Нявідочны хтось даль аздабляе
Блакітам яскравым,
На кволых пушыстых абшарах
Ткуць лёгкія полагі цені.
Цішыня мёртвым крокам гуляе
Па дрэвах кудравых
І сее навокала мары—
Пшаніцы бруштынавай жмені.

Ціха туліцца рэчка да бору
У няведамым страху.
Сталёвая покрыўка з лёду
Ёй грэе азяблыя плечы:
Прышлі ў дзень рыбакі з касагору
Праз снежныя гмахі,
Прысталі, як пчолы да мёду,
Прырваліся, як вoі да сечы;

І давай лёд калоць зубам-ломам,
Рубаці сякерай,
Акулай-пілой пілаваці,—
Аж пот акрапляў ім бароды.
Вада бухала ўверх жыжай-комам
І лезла бяз меры,
Пачала сяброў аглядаці,
Бы сьвет ўжо ня бачыла годы.

І кародзілісь прорубы-раны
На карку балючым,

Да поўначы ледзь загаілісь;
Асталісь нязначныя плямы.

Вышаў воўк на лясную паляну.
Ён крокам бягучым
Да рэчкі дыбаў. І сьвяцілісь
Галодныя вочы вуглямі.

На лёд кінуўся шэрай стралою
З абрыву імпэтна;
І жудкая доля сустрэла
Маркотнага сына гушчару;
Ценькі лёд ён прабіў пад сабою
І папаў няпрыкметна
У проруб зьлягка зьледзянелы,
Воўк здаўся, як здрады ахвяра.

Ледзь пасьпеў ён з вады паказацца,
Выцьцё задрыжала—
І згінуў пад лёдам навекі
Так шпарка, аж пошчакі з бору
Ня здолелі йшчэ расплывацца.
У роспачы млела
Выцьцё, нібы ойканьне зьдзекаў,
Нарэшце сканала ў прасторы.

Воўчы сьлед знакам страху панурым
Гладзь сьнегу шурпаціць.
Лунаюць вакол таямніцы,
Жуда, цішыня, нібы совы.
Хвоі-ведзьмы шапочуць хаўтуры,
Як дзеці па маці.
У небе кроў зорак ірдзіцца,
Кідае рубіны ў дуброву.

1921 г.

## — У БЕЛІ.

Ня казка, ня сон, не малюнак,
Ня чараў сівых падарунак,—
У срыбнай у шэрані, ў белі
Будынiны ўсе абамлелі.

Бы мармур у вэльмах празрыстых,
У кволых, міглівых і чыстых,
Купаецца места ў тумане.

Куды толькі вока ні гляне,—
Ўсюль бела-бялютка. Бы цуды
Зьявіліся раптам усюды:
Здаецца, ня гмахі, а зданьні,
Во—зьнікнуць,—іх раптам ня стане.

Ня вежа на пляцы між дротаў,
А воблік вялізнай істоты
На гурбы ў цішы пaглядае —
Во—нікне, во—гіне, во—тае...
На ёй гусьлі—дроты нямыя,—
Бахматыя струны шкляныя,—
Нячутна іграюць хаўтуры
Паміж заварожаных мураў.

А воддаль высокія дрэвы
Стаяць, як царэўны, як дзевы
У шоўкавых вопратках з пуху,
Як лёгкія, ціхія духі.
Во—зараз з зямлі адарвуцца,
На скрыдлах увыш панясуцца.
Між хвальбаў галін пераліўных
І кволых, і лёгкіх, і дзіўных
Вароны,—як чорныя стужкі,—
Гавораць жалобы-задушкі:
«Кра-кра». Гутарлівыя цёткі
Разводзяць цікавыя плёткі
Аб тым ды аб сім мовай сьмелай.
Выразны на колеры белым
Іх чорныя плямы цяжкія.
Чытэльныя знакі такія
Малююць на сьветлым на полі
Чарнюткім, як сажа, вуголлем
Размашыстым, кемлівым штрыхам
У стылю «Модэрн».

Вабным пыхам
На вуліцах млеюць прысады.
То белью на белі загады
Зіма начыртала: «Мой хорам
«Шануйце! Маім загаворам
«Падайцеся людзі! ўсім сэрцам
«Красе, цішыне маёй верце!
«Для ўжытку вам, малеры, хварбы,
«Арнамэнтаў, колераў скарбы
«На цэлае жыцьцё даволі.

«А вы, песьняры, сыны волі,
«Шукайце-ж у колерах гукі!
«Ў трушчобах маіх, бяз прынукі
«Іх знойдзеце шмат. Па дубровах,
«У дзікіх, зацішных заховах,
«На грыбных гасьцінцах, палянах,
«У кволых ільдзяных туманах
«Сны-казкі чакаюць, як госьцяў,
«Багатых душой ягомосьцяў.
«Чакаюць вякамі цярпліва,
«Задумна, самотна, тужліва.
«Ідзеце, пяўцы, грамадою
«З жалейкаю, з лірай, з дудою!
«Вазьмеце і гусьлі старыя,
«Баяна сыны маладыя!
«З далечын забытага краю
«Вас Белая Русь запрашае!».

1921. г.

## ЗІМНІК.

Па зімніку проста
Ідзеш да ракі.
Бялеюцца ўсюды
Карчы і сукі.

Завалены сьнегам
Абшары балот.
На белых разлогах
Лаза, нібы дрот.

Альшэўнік бяз лісьцяў
Задумны такі;
Галіны, як жылы,
Плятуцца ў кручкі.

Блішчыць палітура
Па гладзі зямлі.
І гурбы-мядзьведзі
Шыр-даль абляглі.

Замёрзла зыбуха,
Застыгла дрыгва.
Прытоптаны к нізу
Чарот і трава.

Сярод азярынаў
На коўдрах сьнягоў
Праложаны трэлі
Да белых стагоў.

І трэлі плятуцца
Туды і сюды,
І хочуць схавацца
Ад белай жуды.

Няма дзе схавацца,
Мароз аж пячэ.
Ён голаў аб хвоі,
Бы камень, таўчэ.

І хвоі ў магерках
Пуховых дрыжаць.
Ваўняныя сьвіткі
На карках ляжаць.

I сьнег на галінах,
Як сала, як сыр.
Бы йдзе ў пуць-дарогу
Асілак-пастыр.

Ідзе ён, ідзе ён,—
На месцы стаіць.
Лес, стоячы, дрэмле,
Аб леце сны сьніць.

А ціш... Аж страхоцьце
Балюе ў цішы;
Ні птушак у лесе,
Нідзе ні душы.

I сьпяць таямніцы
У прухкай труне:
Да лета схаваліся
У рэчцы на дне.

А рэчка пад лёдам
Свая—не свая.
Чужыя ёй хвоі,
Чужая зямля.

Плынь рэчкі ня кіне
Імпэтна цябе,—
Ідзі, як па мосьце,
Па гладзі яе.

Направа, налева
Таўчэцца крышталь.
Нябёсы з зямлёю
Сшывае шыр-даль;

Сшывае іголкай
У торбу адну,
Наводзіць дрымоту
I кліча да сну.

Глядзі, не засьні тут—
Засьнеш наўсягды,
Бяз гэтага досіць
На сьвеце бяды.

Карысьці ад сьмерці
Тваёй нікаму,
А мо' толькі ветру
Балот аднаму.

Пачне ён галёкаць,
Як воўк той, брысьці,—
Пацеха і радасьць
У дзікім выцьці.

Туманяцца далі,
Іскравіцца бель,
Надходзіць з імшары
Віхура-круцель.

У белай спадніцы
Імглы ільдзяной.
Хрыпіць і галосіць
Шалёнай ганьнёй.

Віхура кудзелю
На соснах прадзе,
Сівою мяцёлкай
Паляны мяце.

І пыліць, і трусіць,
І сее муку;
Качаецца, стогне,
Ляжыць на баку.

На сумных пустэчах
Пячэ пірагі,—
Вялікія булкі,
Як горы-стагі.

I каппляе пушча,
Ад сьцюжы хрыпіць,
I дрэва па дрэву
Іграе, скрыпіць.

I звон нейкі звоніць,
Гудзіць нейкі гул;
На сьнежным прытулу
Брыдзе няпрытул.

Штось мелецца ў лесе,
Між жорнаў на мак;
Малоціцца нешта,
Дрыгочыць таптак.

А бліскі сьняжынак
Варожаць абшар,
Бы кветкі шчакочуць
I вочы і твар.

Ты—шэрая кропка
На шлюбе віхроў,
Ты—нутлая плямка
Сярод пустыроў.

Па зімніку белым
Ў агне завірух
Брыдзеш адзінокі,
I стыгне твой дух...

1922 г.

## ПЕСЬНЯ.

Як-бы плача хто ў лагчыне,
Як-бы жаласна пяе,—
То малодую дзяўчыну
Бацька замуж выдае.

Муж багат, але нямілы:
Ён калека і. стары.
Дзеўка плача, траціць сілы
Без карысьці, без пары.

А саколік, а Міхалка
Хоць бядак, але прыгож.
Сэрца рвецца на кавалкі,
Вочы мутныя ад сьлёз.

А тымчасам родны бацька
На дачку, як воўк, глядзіць.
«Мая воля, каб це' качка!
Пойдзеш, гадзіна!»—крычыць.

А муж гладзіць плех блїскучы
З відам: «я вам не прастак»,
Лічыць золата у кучы,
Доўга кашляе ў кулак.

А дзяцюк ад буйнай злосьці
Няпрытомны, ўвесь дрыжыць.
«Я яму раздроблю косьці!
З ёй стары ня будзе жыць!»

Сьціснуў ён кулак дубовы,
Загарэўся, як агонь:
Лыпіць вочы, хмурыць бровы.
Ой, задумаў штосьці ён!

1914 г.

## МОЖА БЫЦЬ...

Можа быць—родны тата
Пятлю мне надзеніць.
Можа быць—мая маці
Мне ката заменіць.

Можа быць—мая хата
Мне стане магілай.
Можа быць—хутка страчу
Апошнія сілы.

Можа быць—без хаўтураў
Засыплюць зямлёю.

Можа быць—толькі дрэва
Кіўне галіною.

Можа быць—толькі птушкі
Пачнуць там гаворкі,
Будуць часам кружыцца
Над жоўтым пагоркам.

Можа быць—зоркі з неба
Зірнуць апаўночы.
А з людзей—дык ніводны
Прыйсьці не захоча...

1915 г.

* * *

Пяе струна надхнёная,
Варожыць па начы;
Ад шчасьця млею, стогну я,
О, сэрца, не маўчы!..

Папера—поле белае
Для літараў-зярнят.
Шчыр-думкі сею сьмела я,
Я—сейбіт, я—багат.

Радкі—барозны роўныя
Вяду сахой-пяром.
Ратайскай сілай поўны я,
Магутнаю, як гром.

1921 г.



З пылаючых квятаў-вагнішчаў,
З крывавых, грымотных ігрышчаў,
З узгор'яў-курганаў сталёвых,
З асілкаў-маякаў дубовых,
З сям'і навальніцаў-віхораў,
З пявучых, міргаючых зораў
Радзіўся прарок.

І словы яго цудадзеюць—
Ад іхніх кадзілаў хмялеюць.
І водгук яго—сполах мора,
Калыша даліны і горы.
І сонечным днём азароны
Магутныя піша законы
Вялікі прарок.

Асеньнім гнілішчам—старое,
Вясновым растком—маладое;
Аджыўшае—совы, кажаны,
Густыя страшныя туманы;
Раджонае—сокалам-птахам
Лунае над горным над гмахам
Віхораў і бур.

Рукой мазалістай, жылістай
І молатам зычным, іскрыстым
Арліныя песьні куюцца;
Гартуюцца, горда пяюцца,
Гудзяць сямёхзвонным мэталам.
Буяюць зварушаным шквалам,
Іх подых—агонь.

Бухторацца моцныя грудзі,
Асілкі, багі, а ня людзі.
Праменіцца вока бясконца,
Шыбае да самага сонца,
Дзе новая праўда мяцежыць,
Дзе новае неба бязбрэжыць
Над новай зямлёй.

1921 г.

## ВОЛЯ.

Трупы ляжалі, як горы.
Стогны плылі на прасторы.

Воўкам крывавым пажары
Вылі на полі-абшары.

Над папялішчамі сьмела
Воля на скрыдлах ляцела;

Горнай арліхаю славы
Пела над цёмнай дубравай;

Волатам юным у зброях
Дух падымала у боях;

Вогненай зданьню скрыдлатай
Зьяла над полем, над хатай;

Дзікім канём за гарою
Вабіла вока людзкое;

Бурай агнёвай над глебай
Гук падымала да неба;

З хваль выплывала царыцай,
З неба сьвяцілась зарніцай;

Бедных надзеяй карміла,
Люд у бядзе весяліла;

Ўночы камэтай квацістай
Брызгала снопам іскрыстым;

Люду гаротнаму казкі,
Сны даравала і ласкі;

Перад замучаным вокам
Гордым стаяла прарокам;

Клікала ў бой на змаганьне,
Клікала з раньня да раньня;

Звала на сьвежых магілах,
Кроў запаляла у жылах;

Гымнам варожыла сэрцы,
Каб не баяліся сьмерці.

1922 г.

## ШАТАН СЬМЕРЦІ.

Над зямлёй нясецца чорны шатан сьмерці,
На кані скрыдлатым пяруном грыміць.
Неба запалала, неба разарвецца,—
Ўся зямля ў трывозе, як дрыгва дрыжыць,

Над зямлёй нясецца жудасная смага.
Туманом вільготным абхапіла сьвет,
Злыдні разгарнулі залатыя сьцягі,
Сьмерць касою піша мсьцівы свой завет:

«Кроў, агонь і гібель—сэрца майго мэта!
Стогн, кананьне, трупы—асалода мне!
Мне, як сьведкі, служаць страшныя камэты,
Льюць агнём па небу ў начным ціхім сьне».

«Чалавек няшчасны, выпі коўш паўнюткі!
Гэй, хутчэй за працу, гідкі, дзікі кат!
Кроў, агонь і гібель, запануйце хутка!
Забівай адважна брата свайго, брат!»

1916 г.

## К А Т.

Першы кур пяе. Паўночная гадзіна...
Маўклівы, чорны кот праз мой пакой бяжыць.
Жудасьць сьмерць і страх плятуцца павуцінай.
Зданьнё вядзе свой сьпеў, зданьнё, як ліст, дрыжыць...

Сэрца ў цішыне таёмнасьцяў чакае...
Груган шуміць аб шкло. Груган—мой родны брат.
Ноч маўчыць, як цень, трывожная такая...
О, буду я ў крыві купацца, бо я—кат!

Бацька мой і дзед былі так сама каты;
У спадчыну яны сякеру далі мне.
Над людзьмі твару я гібелі і страты,
Нарэзаў шмат галоў бунтарскіх у турме.

Кур другі пяе... Як госьць магільны, б'ецца
Груган аб шкло вакна. Сякера круць і верць
На каменнай сьцяне; у рукі мае рвецца,
Бо рэзаць хоча ўсіх, усюды тварыць сьмерць.

Даўнюю іржу гарачаю крывёю
Я выцерці хачу цяпер на новы лад.
Сякера круць і рвець,—ня мае супакою
І вастрынёй зіхціць.—Ёй будзе працы шмат.

У крывавы цьвет я апранусь з ахвотай;
Ахвярамі людзей бясконца я багат.
Гэй, рыхтуйся, друг-сякера, да работы!
Вось трэці кур пяе. Я—кат! Я—мсьцівы кат!

1915 г.

## Г А М...

Там, дзе нівы, дзе абшары,
Сухавеі і пажары
Абляглі;
Там, дзе суш спаліла збожжа,
Дзе імчыцца дух варожы
Па зямлі;

Там, дзе медны подых неба
Скамяніў лугі і глебу,
Траўку, пень;
Там, дзе праца аратая
Зьнікла, быццам мара тая,
Нібы цень;

Там загула Галадуха касьцістая,
Смаглая, гідкая, дзікая, мглістая;
Меле клыкамі атручанымі;
Косіць людзей яна голадам, морамі.
Кідае косьці вятрамі-віхорамі,
Ловіць іх пальцамі скручанымі.

Вые над вёскамі шэрай ваўчыхаю,
Сполах вісіць над гасподаю ціхаю,
Сьмерць гудзе над абяздоленымі.
Дзеткі малыя, старыя бабулечкі
Стогнуць, канаюць над беднай хатулечкай,
Горам яны заняволеныя.

Тысячы... тысячы...—трудна знаць лік,—
Кормяцца глінай, карой.
Тысячы... тысячы...
Пухнуць ад голаду. Сохне язык.
Скіданы трупы гарой.
Тысячы... тысячы...

Жудасьць пануе па ўсіх берагох
Волгі магутнай.
Душыць пагібель, бы каменны бог,
Все пакутай.
Сее нядоля атруты свае
Макам агнёвым;
Песьні шалёныя гулка пяе
Гукам сталёвым.

Носяцца, носяцца чорныя духі,
Чорныя сілы.
Падаюць, падаюць людзі, як мухі,—
Ўсюды магілы...

Роспач-адчай мігаціць у вачох.
Бліскае стогн на палох:

...Ратуйце! Ратуйце!

Штушкай заклятай пад небам нямым
Стогн расплываецца ў дым:

...Ратуйце! Ратуйце!

Корчацца-ломяцца тысячы рук
Ад дзікіх ад страшных ад мук:

...Ратуйце! Ратуйце!

Шэпчуцца, шэпчуцца тысячы губ,
—„Ад сьмерці, ад жудкіх загуб

Ратуйце!.. Ратуйце!“

„..Мазоль мужыка вам заплаціць сто раз,
Мы хлеба чакаем ад вас!

Ратуйце!.. Ратуйце!..“

...Дагэтуль шмат год, многа лет
Мы самі кармілі ўвесь сьвет...
Ратуйце!
Ратуйце!!—

1921 г.

## — НА БІБЛІЙНЫ ЛАД.

### ІСАЯ.

Заліў быдлячы лой валоўі твае грудзі—
Ты бяз душы жывеш, бяз сэрца, без вачэй.
Ня трэба нам такіх—няхай такіх ня будзе!
Дык згінь, шальмец, як цень спалоханых начэй!

Аблічына твая ад злых учынкаў брыдка,
А рукі, плечы, карк,—бы куча гнілых дроў.
Напоўнены сьлязьмі твой скарб, твае дабыткі,
На золаце-шаўкох бліпчыць і пеніць кроў.

Паганіш ты сабой абшар зямлі і неба,
Як дзікі зьвер лясны, калечыш нам жыцьцё.
На забаўку такіх пякельні аддаць трэба,
З гары крыві і слёз сьпіхнуўшы ў забыцьцё.

1915 г.

## НА СЬМЕРЦЬ А. БУРБІСА.

Яшчэ адна, яшчэ адна ахвяра
Пашла туды—ў харомы цішыні...
Пад гудам бур, пад чырваньню пажараў
Правёў баец гады свае і дні.

Зашмат іх шло, зашмат іх шло ў магілы
Ў расквіце лет, заранйня, без пары.
Яшчэ адна, як пломень, згасла сіла
Пад абрусом сьпяваючай зары.

Пашоў баец у княства светлых ценяў,
Пад златаблеск адвечных курганоў.
Яго душа пад зьяньнем кос-праменьняў
Спачын знайшла пад вэльмам тайных сноў.

А не знайшлі жывыя ў нас спачыну,
Якім жыцьцё судзіла той-жа шлях.
У памяць тых, хто без пары загінуў,
За Беларусь падымем вольны сьцяг!

1922 г.

## ЮДА ЖЭНІЦЦА...

Юда жэніцца на полі.
Маладуха яго—Сьмерць.
Злыдні носяцца ў раздольлі,
Гульню ладзяць, круць і верць.

Гэй, бярыся, зух, у бокі!
Жвавы, рухайся, народ!
У зварожаныя скокі
Сып, гуляй, шалёны зброд!

Пустамель і прапаведнік
Шышка важная і моль,
Бочак золата насьледнік
І абшорпаная голь,

Ладзьце карагод пякельны,
У разгойданы віхор
Зацягнеце цягай хмельнай
Плойму цел у соткі гор!

Замест він, у коўш атруту
Лі з зачумленных катлоў!
Сьлёз, крыві, хвароб, пакуты
Не шкадуй, зьмей-душалоў!

Хтосьці ўпрысядкі заскоча,
Дробным крокам прабярэ;
Хтось, як гіцаль, заякоча,
Вышэй голаў задзярэ.

Кінь свой сорам, чалавеча!
Чэсьць сваю не сьцеражы!
Бо разьюшанае веча
Тут ня ведае мяжы.

Чалавечыя законы
Тут ня хочуць панаваць.
Болей мукаў... Болей стогнаў...
Болей жыцьцяў перарваць...

Няма сэрца, няма жалю,
Няма людзкасьці ў душы.
Апусьціліcь Сьмерці шалі.
Зьвер пануе—так пішы.

Хтосьці плача хтось сьмяецца,
Шле праклёны на прастор.
І трасецца і нясецца
Заварожаны віхор.

Мора полымяў і крыкаў,
Мора сьлёз, крыві, касьцей

Прэцца, рвецца страх вялікі.
Гэй, у скокі, гэй, хутчэй!

Юда жэніцца на полі.
Маладуха яго—Сьмерць.
Злыдні носяцца ў раздольлі,
Гульню ладзяць, круць і верць.

1915 г.

## ЛЕТАПІСЕЦ.

У ціхай, глыбокай, сьвятой падзямельні,
Дзе сыра зямліца, вільготны каменьні,
Дзе ледзь пранікаюць жывыя праменьні,—
Пустэльнік сядзіць адзінокі.

Пажоўклы паргамант навален усюды.
Дзед піша і піша. Аж граматаў груды
Напісаны густа. Здаецца, што цуды
Дзед творыць у шчылі глыбокай.

Замест атрамэнту ён піша крывёю.
Разумнае вока бліщчыць пад брывёю,
Ківае ён лысай сваёй галавою,
Працуюць касьцістыя рукі.

Адвечную праўду ён любіць жывую;
Ён судзіць бяз страху пра благасьць людзкую,
За шчырасьць адважна і сьмела ваюе.
Яго будуць ведаць унукі.

* * *

У цёмных куткох падзямельні пануе і ціш і павага,
Часамі кажан шэрым скрыдлам нямую спакойнасьць трывожыць:
З зацьвіўшых няведамых шчылін ён вылезьці мае адвагу,
І як-бы яго летапісец паўночнай работай варожыць.

На новы лад мэты-жаданьні патомкам жыцьцё ператво-
[рыць,
Збудуецца хорам на трупах, жалейка—ад трунаў трух-
[лявых.
Аб нашых стагнаньнях і муках праз процьмы вякоў за-
[гаворать,
Шмат казак, шмат песьняў сьпяюць нам, шмат ска-
[жуць нам думак цікавых.

Ці людзі скіруюць да сонца з свайго астарэлага шляху?
Палепшаюць?—Старац сталетні і ведаць аб гэтым ня-
[хоча:
Ня любіць пытацца. Пра час свой спакойны ён піша
[бяз страху.
Над ім кажан скрыдлам цямнявым лапоча.

1915 г.

* * *

І цішыня і змрок спляліся між сабою—
Пад сьвіткаю жуды дзьве варажбіткі ночы.
На скрыдлах кажаноў мільгаюць над ракою,
Глядзяць на сьвет нямы з шкляных савіных вочаў.

З-пад кожнага карча тырчаць агіды-страхі,
Пад заваньню сівой дрыгочуць таямніцы.
А зоркі не пяюць пад цёмна-сінім дахам,
Над борам ня дрыжыць карона зараніцы.

Ў самоце я сяджу пад крыжам пад пахілым,
Я чую стогн зямлі, я чую споведзь маці.
Люблю я ў гэты час туліцца да магілаў,—
Прымусам тайных слоў памёршых выклікаці.

Брыдуць яны, плывуць, як шэраг лятуценьняў,
Як ледзь прыкметны пыл над роснаю зямлёю.
Скажыце мне—Ён ёсьць?.. І нікнуць, таюць цені,—
Маўклівасьць пада мной, маўклівасьць нада мною..

1922 г.



* * *

Ад плачу птушкі невядомай я прачнуўся раніцой...
Гушчар драмаў на мшалай горцы пад туманістай імглой.
Вятрак пісаў крылом па небе таямнічы сказ вясны.
Ўгары сьляпілісь руні хмарак, нібы спозьненыя сны.
Гудзеў асьвір над старай студняй роем зьюшаных пчалін.
Бярозка шастала ў ваконца сотняй пальцаў рук-галін,
Жабрачкай дрэва абапёрлась аб стары, каравы плот;
Здаецца, во скранецца з месца на жабрачы свой абход.

А птушка плача, на абшары кліча сонечны прамень.
Стаіць цяплынь і пахне мёдам новы, раньні божы дзень.
З глыбі душы ўстаюць спаміны стадам беленькіх ягнят.
Здаецца, дзень такі я бачыў шмат гадоў таму назад;
Здаецца, гэта толькі люстра хвіль мінуўшых, быўшых дзён;

Здаецца, гэта не на яве—сьню я нейкі даўны сон.
Сто год назад таму ці болей бачыў я такі абраз...
А птушка плача, лес імшаны веснавы шапоча сказ.

1922 г.



* * *

Пад пусткай цень расьце вільготны і дрыготны,
І сеецца журба над борам, касагорам.
Дух цьмы плыве ўгару дрымотны і балотны,
Імкнецца ў ціш нябёс да зораў на прасторы.

І ноч блішчыць, імчыць, як чорная маланка,
Як ліст, дрыжыць, маўчыць над полем у тумане.
Здаецца, наўсягды патух агонь заранкі,
Здаецца, новы дзень на Божы сьвет ня гляне.

І ноч схавала сьвет, бязьлітасна стаптала.
І змрочьвасьць саранчой агіднаю нясецца.
І шчасьце на зямлі навекі ўжо прапала.
І так што-ноч здаецца...

1922 г.

* * *

Я—кропля вялікага творчага мора,
Я—іскра кваціcтага полымя зораў,
Я—водблеск нябёсных адвечных прастораў.

Душа мая—песьня з сьвятога амбону,
Душа мая—краска ад Божай кароны,
Душа мая—водгульле Божага стогну.

А думы—вясны залатой агнявіцы,
А думы—зямлі жыватворчай крыніца,
А думы—лугоў аксамітных расіца.

Жыцьцё маё—сон бога дзіўных Калядаў,
Жыцьцё маё—цень лясуновых прысадаў,
Жыцьцё маё—шэпт чараўнічага саду.

Памру—не памрэ жыцьцедаўчая сіла,
Што дух мой пад неба да зорак насіла,
Што кіне вянок на нямую магілу.

1922 г.

## ПСАЛЬМЫ ПАЎНОЧНЫЯ.

Псальмы паўночныя,—кветкі расістыя—
Сэрца сьмяротнага сьпевы вячыстыя,

Птушкамі лёгкімі зьнізу насіліся,
Ў неба халоднае скрыдламі біліся.

Пчолкі маўклівыя—зоранькі пільныя
Іх сустракалі там цішай магільнаю.

Месяц палохаў іх сном-таямніцаю,
Скрыдлы кадзіліў ім злой агнявіцаю.

Хмары іх вабілі шэрай пуцінаю,
Путалі-блыталі цьмой-павуцінаю.

Далі трывожылі сінімі дахамі,
Процьмай бязьмежнаю, белымі страхамі.

Псальмы паўночныя—ягадкі сьпелыя—
З неба вярнуліся асірацелыя.

Песьня за песьняю ўніз пакацілася,
Сэрца ад жаласьці ціха разьбілася.

1922 г.

* * *

За мною курганы вячыстыя,
Наперадзе—далі квяцістыя,
На ростані я—дзед вандроўны.

Адкуль і куды, з якой мэтаю,
Пад тайнай якою плянэтаю
Мяне вядзе ў даль шлях няроўны?

Іду я маленькай крапінкаю,
Плыву я драбнюткай краплінкаю
Пад бурай-віхурай жыцьцёвай.

Чаму і нашто, кім скірованы,
Пад зоркай якою захованы,
Хто шэпча над шляхам замовы?

. . . . . . . . . . . .

...А досіць адзін прамень сонка,
Бурлівага сэрца гамонка,—
І гінуць, як цені, пытаньні.

Усё тады ясна на сьвеце,
Жыцьцё разумеюць і дзеці,
Слабеюць душы нараканьні.

Жывеш, нібы краска на ніве,
Як дуб на паляне,—шчасьлівы,
Як бура—адважны і сьмелы.

Жыцьцём ты напоўнен, як хмелем,
Іскравым і шчырым вясельлем,—
Загадкі жыцьця зразумелы.

1922 г.

* * *

Я—спадчына вякоў, сын даўных пакаленьняў,
Я—быстралётны цень тысячалетніх ценяў,
Я—хуткамігі блеск ранейшых мігаценьняў;

Я тку далей узор няскончаных тканінаў,
Я—няпрыметны плынь стардаўных ручаінаў,
Я—кволая трава вячыстых лугавінаў.

Я рвуся ў даль зары да новых таямніцаў,
Хачу дастаць вады з няведамых крыніцаў,
Хачу дастаць агню з высокіх зараніцаў.

Хачу парваць ланцуг тысячалетняй сталі,
Хачу прабіць сьцяну да новых сьветлых даляў,
Хачу, каб мерцьвякі ў адвечным сьне маўчалі.

А мерцьвякі жывуць у кожным маім кроку.
Іх водблескі мігцяць з майго жывога вока,
Ўва мне і пада мной, і нада мной высока.

У голасе маім, у кожным маім стогне,
У думках, у крыві, ў трывожным забабоне,—
Яны кіруюць мной—я вечна ў іх палоне.

1922 г

* * *

Сум сьмерці і радасьць жыцьця
У сэрцы на шалях ляжаць.
То сьмеласьць, то страх забыцьця—
А шалі дрыжаць і дрыжаць...

Цьма ночы і водблескі дня
Ткуць ніці пад ціхім агнём.

Ці хопіць надоўга агню?
А ночка праходзіць за днём...

Кайданы на кожны мой рух
Ці верыць, ня верыць—турма.
Пытаньні палоняць мой дух—
Адказу няма ды няма...

1922 г.

* * *

Гэй, на золак рана ўстаньце,
Ў полі бродзіць нейкі бог.
На зялёнай на палянцы
Сьлед расісты яго ног.

Аглядае рэчкі, кветкі,
Гладзіць-песьціць кожны пень,
Сее росы на палеткі
І лабуніць вешні дзень.

Як зданьнё да загуменьня,
Казка з лесу к нам плыве,
Чуем казку ў кожным мгненьні,
Над травою ды ў траве.

У сьпяваньні птушкі малай,
У журчаньні ручаін,
У сгагнаньні хвоі мшалай,
Ў яўным водгульлі далін.

1922 г.

## МОЙ СКАРБ.

Мой скарб мацней жыцьця і сьмерці,
Бясьсмертны ён у сьмертным сэрцы.

Мой скарб блішчыць—мой скарб багаты,
Даступны ўсім—ён не закляты.

Мой скарб—ад зор, мой скарб—ад неба,
Мой скарб—ад гор, мой скарб—ад глебы.

У глыбі вод, у шэптах бору,
У шоўку траў, у птушак хоры.

У серабры мільготных росаў,
У харастве дзявочых косаў.

У марах-снах, у тайных муках,
У гусьляроў наструнных гуках.

1922 г.

* * *

Стазычныя, высокія
Званіцы загулі.
Да неба кінуў вокам я,
Зірнуў у глыб зямлі.

Ці хто на клічы шчырыя
Падыме галаву.
У паднябёсны вырай я
На веча ўсіх заву.

Ідзі туды, дзе волаты
Кладуць свой шлях да зор.
Магутны ты, бо молад ты,
Душа твая—віхор!

1922 г.

## НА ХУТАРЫ.

I.

Убіраецца восень у стужкі
З масянжовых дубовых лістоў,
З ветрам ладзіць над крыжам задушкі
І вандруе між дрэваў, кустоў.

То дажджом пачне плакаць на рэчцы,
Бязупынным, драбнюткім, бы шрот;
То праменьнем на небе ўсьміхнецца,
Абальле яркім сонцам чарот.

Гляне сумна на цёмныя ўзгоркі,
Кіне вокам на поле, лугі,
Завядзе між сасонак гаворкі,
Затрасе на балоце стагі.

Па гасьцінцы жабрачкай кульгае,
Штось шапоча на сон іржаню;
Пад вакном ваўком шэрым мільгае,
З азяродам вядзе калатню.

Нібы кот, драпяне вакяніцу,
У завэндзаны комін зірне;
Запяе, загалосіць начніцай,
Пук саломы з страхі скубяне.

Туманом апранае фальварак,
Нібы ў шэры, вільготны кажух;
Вараньнё падбухторыць да сварак,
Вырай птушак спляце у ланцуг.

Зробіць зыбку з асьвера над студняй,
Закалыша туды і сюды,
Завядзе сваю псальму марудна,
Хоць давіся ад страшнай нуды.

Восень ценем палохае, труціць
Адзінокія, мутныя дні;
Кожны раз жменьку хвіль яна скруціць;
Ноч раней затуляе лугі...

Ноч расьце і расьце, нібы казка,
Нібы ў цёмных лясох страхацьцё,
Уступае дзяньку, як на ласку,
Надта мала гадзін на жыцьцё.

II.

І гудзіць малатарня надоднік,
Коні шчыра пільнуюць свой круг,
І драцянкай фарсіць малы шкоднік,—
Абарваны свавольнік-пастух.

Як загойкае грозна і злосна,
Як тыркне пугаўём пад аброць,
Бедным конікам робіцца млосна,
А дагэтуль ішлі самахвоць.

То папravіць хамут гаспадарна,
Раптам лейцы бяз толку рване...
«Галапуп!—хтось крычыць—што так марна?
Ня кіруе, а толькі псуе!»

А ў таку малатарні у губы
Снапы сам падае гаспадар.
Аж скрыгочуць сталёвыя зубы,
Паядаюць і жруць Божы дар.

Падавайце шыбчэй без спачынку—
Зьвядуць торпу збажыны цалком.
А зярняты мільгаюць пад скрынкай
Залацістым, жывым ручайком.

Дзеўка віламі ўверх падкідае
Саламяны, скалмачаны пук:
Мо' зярнятка схавалась, хто знае,
Верыць нельга—крадзецца з-пад рук.

А за ёй гаспадарава жонка
Прабівае салому ямчэй.
І журчыць, як крынічка, гамонка,
Ідзе праца хутчэй і хутчэй.

III.

Дзед граблямі гартае з зярнятаў
То саломку, то жмут каласоў;
А ён сам у саломе, калматы,
Як гуменьнік мінулых часоў.

Раптам грудзі яго захадзілі,
Граблі выпалі з рук, як на зло:
—«Ой, даўней, як цапом малацілі,
Нейк шмат тады лепей было!»

«Неяк людзі былі трывалейшы,
Здаравеў аж ад працы народ;
А я быў тады многа здальнейшы,
То—даўненька, таму ўжо шмат год...»

«Гарапашнік сыцеў тады з працы
Йшчэ ямчэй, як ад сала, амаль;
Аслабеў наш мужык, трэ' прызнацца,
З тых часоў, як убраўся ў паркаль.»

«З тых часоў, як забыў сваю песьню
І дзядоўскіх звычаяў наш люд,—
Ад чужых тут зрабілася цесна,
Апаганіўся родны наш кут.»

«Ўсё пашло шурам-бурам на сьвеце
Аж да самых да Божых нябёс,
Вакол бачу цяпер ліхалецьце,
Ражаном лезе фіга пад нос.»

«А даўней тут лясы ў нас шумелі,
І птацтва і зьвяр'я было шмат,
Пышна рэчкі вакол мігацелі;
Ой, быў край наш бясконца багат!»

«Вечарынкі былі, былі скокі,
Былі выпіўкі—проста бяда,
Мерцьвякі нават браліся ў бокі,
Як лявоніху сыпне дуда!»

«А цяпер-то гармошка-паскуда
Сваёй полькай даводзіць да сьлёз.
Скуль звалілася гэта заблуда?
Ну й гасьцінец маскаль нам прынёс!»

«Йшчэ прыснасьціў частушкі паганец,
На вялікае гора-бяду;
Проста вушы прыстойныя вянуць,
Як паслухаеш гэту брыду!»

IV.

Стары думае горкую думу,
Смокча люльку сваю і дыміць.
Раптам крыку наробіць ён, шуму:
«А што дзеўка бяз дзела стаіць?»

«Не да смаку, мабыць, наша праца,
Не ў спадобу ржаны каласок;
Не зявай, маляваная цаца!
Далібог, дам граблямі пад бок!»

«Ты зрабілася паняй вяльможнай,
Як у горад вучыцца пашла!
Абыйсьцісь без цябе тутка можна,
Можаш сьмела ісьці, скуль прышла!»

Зара ўнучка заплача, здаецца;
Круглы тварык гарыць, нібы жар,
І спрытней за работу бярэцца,
І сьпяшыць, бы вабухаў пажар...

Рупнасьць з новаю сілай зьявілась,
Граблі, вілы свой зык завялі;
Да работы вялікая міласьць
У грудзёх забуяла сям'і.

Рос імпэт, аж завыла салома,
Закружылась, бы рой дзікіх пчол;
Нібы страшна плятуцца заломы,
Нібы ведзьмы шапочуць вакол.

Нібы ладзіцца тут набажэнства
Да бажышчаў сялянскіх турбот;
Мабыць тут з даўных пор, ад маленства,
Мазоль трэцца, крывавіцца пот.

Ловіш рытм кемных рук у паветры,
Пісаніву на жыце грабель;
Гудзяць вілы таемна пад ветрам,
Хусткі баб мігацяць, быццам бель.

Цела гнецца рухава, упарта,
Разыгралася, рыпае косьць;
Зьніклі сьмехі, адкінуты жарты,
Вока сыпле і строгасьць і злосьць.

Стог саломы расьце на гумнішчы,
Жыта лавінай жоўтай плыве.
Малатарня тарпу зара зьнішча,
Даастатку яе глымзане.

Аж дрыжыць палахліва будынак,
Аж бурчыць пашурпачаны дах,—
Нібы дзікі збунтованы рынак
Выдае гучны вокліч на страх.

Проста люба глядзець, як работа
У руках гарапашных кіпіць.
Тут і любасьць да працы, ахвота,—
Цэлы сьвет мужыку трэ' карміць...

Аддае ён зямлі, як падатак,
Усе сілы плячоў, моцных рук;
А сам ляжа на ёй наастатак
Шэрым крыжам ад вечных ад мук...

Што-ж рабіць, такі лёс, мабыць, зьвеку
Ўжо пастаўлен яму, бы капец:
Далі глебу капаць чалавеку—
Тут—пачатак яму, тут—канец.

V.

А газьніца стаіць на драбіне,
Воўчым вокам глядзіць на людзей:
Аж, здаецца, буркне зара з кпінай:
«Хоць-бы кончылі працу скарэй!»

У адказ раптам шась—стала ціха,
Нібы д'ябал упутаўся сам;
Чутна лаянка дзеда: «Вось ліха.
Стары пас разьляцеў папалам!»

Гэты пас мужыку быў назолай,
Вечна рвалася старая гніль;
На вяку сваім пас вакруг колаў
Шмарганyў не адну сотню міль...

Быў ён сьведкай і другам у працы
Мазалістым і простым людзям,
Што паном будавалі палацы,
Жылі самі з бядой папалам.

А цяпер пас стары толькі шкодзіць,
На цярпліваcьць людзей вядзе гарт;
Рапаруй яго—ён валаводзіць,
Ценгля рвецца наўмысьне, на жарт.

Хоць гадзіцца ён толькі на дзягі,
На падшыўку к атопкам старым,—
Гаспадар да яго мае цягу,
Налажыў на яго свой «хэрым».

Ён гадуе ў душы забабоны,
Што, як новы здабудзе рамень,—
Не дадуць ураджаю загоны,
Ад гасподы астанецца цень.

А цяпер толькі латай і латай,
На ўвесь дзень малацьбу адлажы...
Злы капрыз часам мае араты,
Як упрэцца, як корч на мяжы.

VI.

Шчыра пот выцірае сямейка
І да хаты ідзе на спачын.
На гумнішчы жалобіць жалейка,—
Пастуха абавязак і чын.

Ускарабкаўся ён на каняку,
Нібы смоўж да апенькі прыліп;
Зьняць хамут і забылі,—зьнявага,—
Клешчы старыя водзяць свой рып.

Голаў конь уніз хіліць, варушыць
Да халоднай пахучай расы,
Хамут зьехаў на самыя вушы
І кудлаціць і рве валасы...

Лейцы путаюць ногі у петлі,
Ў бруднай лужыне мокнуць—аж грэх;
Прысядае каняка басэтляй,
Аж глядзець на яго проста сьмех.

Раптам сучка завыла пад бокам.
Нібы зараз каня зьесьць жыўцом;
А каняка ня міргае вокам,
Ціха корміцца цьвёрдым сіўцом.

Водзіць хлопец тымчасам тры ноты,
Талалюкае ён у запар.
Галасьней паўтарае з ахвотай,
У пузыр аж надмухае твар.

Салавеюць блакітныя вочы,
Забывае сябе ды ўвесь сьвет.
У таку ў гэты час хтось мармоча,
Злосна венікам шморгае дзед.

VII.

Дзядок вечна работу знаходзіць,
Бо заўсёды яе проста цьма;
Вечна тупае, ходзіць і ходзіць,
І памерці на'т часу няма.

Кучу жыта шаруе, шліфуе,
Пачынае мятлою мясьці;
На язык часам зерне спрабуе,
Адкідае пылінкі, асьці.

І на збожжа зірне без дакукі,
І кіўне галавой кожны раз:
«Мазалі хоць скалечылі рукі—
Умалотнае жыта у нас!»

«А чысьцюткае—проста на дзіва,
Гарфаваць на'т ня трэба, дальбог!
Без званца і ядрона да мліва,—
Будзе белы ў нас хлеб, як пірог.»

Але радасьць, спынілась на месцы,
Ашчавеў бражджатлівы язык:
«Без мякіны хлеб прыдзецца есьці?!»
А да гэтага дзед ня прывык.

«Без мякіны...Ды гэта-ж распуства!
Тож ашчады ня будзе ніяк!
Без мякіны...Кяпства гэта, глупства,
Без мякіны хлеб страціць свой смак...»

Дзед павёў па бакох спрытным вокам:
«Каб ня ўгледзіў, часамі сынок...
Не стухлее дабро ад урокаў,
Як прыбавіцца лішні пўдок...»

І давай шуфляваць зноў да кучы
І пазадкі й мякіну назад:
«Усё роўна хлеб будве пахучы,
Смакаваць будзеш, рад ці ня рад...»

«Шмат спарней будзе хлеб наш з мякінай,
Не праколе, як шыла, кішку.
Парасьцёртую разам з збажынай
Я глытаў яе шмат на вяку.»

«А мякіна у хлебе ня шкодзіць,
Не зашкодзіць і франтам маім,»—
Аднак дзед агляну́ўся, як злодзей,
Пры учынку агідным сваім.

VIII

Сам з сабою дзед ціха гамоніць,
Нібы гутарку з духам вядзе;
Так сумленьне і гонар бароніць,
Сваю казку жыцьця так пляце.

Улюблёна глядзіць ён на жыта,
Зморшчыць лоб у гармонік стары;
Нібы сэкрат страшны тут скрыты,
Тастамэнты мінулай пары.

Кожна зерне яму штосьці кажа,
І мякіна шапне успамін.
Ой, шмат думак гадуе і вяжа
У гаротнай душы селянін!

І ня скеміш, ня сьцяміш, ня зьлічыш
Тоўсты жмутак працоўных гадоў.
«Бог сьвяты, ці яшчэ павялічыш?
Ці ня годзе ужо? ці ня до?»

«Хіба мне бадай не давядзецца
На вясну ды з сявалкай гуляць:
У грудзёх штось хрыпіць і здаецца,
Хутка кіну людзём дакучаць...»

Вось вірнуў ён у бок на газьніцу,
Мільганула і згасла яна.
А на небе красуе зарніца,
Адбіваецца ў шыбах вакна.

Абразкі там на вышцы малюе
Тайны квачык нябачнай рукі,
Гэта пішацца гымн—«аляльлюя»
Айцу вечнаму неба, зямлі.

І чаго ты, чаго не пабачыш
У багатых у фарбах у тых:
Хмарак воблікі пераіначыш
У сям'ю патрыярхаў сьвятых.

Там на глебе агнёвых калёраў,
Райскі мак крышталёвы цьвіце;
Там, апрануты ў яркія зоры,
Волат лапці з праменьняў пляце.

Кожны лапаць—вялікі, як хата,—
Пурпуровым агнішчам сьвяціць.
А вакол гэтак пышна, багата
Срыбны, казачны замак стаіць.

Там у сажаўках ярка чырвоных
Качкі дзіўныя ціха плывуць.
У бліскучых бел-сьнежных каронах
Па даліне тры старцы ідуць.

І глядзяць на усход там, дзе слонка
Мігаціць, як вуглёвы арэх...
На купінах варожаць сасонкі
І бялеюцца ў хмарках, як сьнег.

IX.

Раптам хмары з нябёсных аблогаў
Паплылі на край неба, на бор,
Бы загад выпаўняўся ад Бога—
Зрабіць вольным блакітны прастор.

Вялічэзнай, празрыстаю міскай
Неба ціха лягло на зямлю;
Нібы маці над кволай калыскай
Шапянула дзіцяці «люблю».

На платох тчэцца шоўк павуціны,
І кудзеліць над хаткай дымок;
Пад вакном млее чырвань рабіны,—
Будзе слаўны, пагодны дзянёк...

«Баб'е лета» аздобіць шыр ніваў,
Закрасуецца сонца ярчэй...
Утаропіць на рунь-зеляніву
Міліёны лагодных вачэй.

Пазалоціць дубы на гародзе,
Прыгалубіць кудравы гушчар;
На лістоў дыване ў карагодзе
Будзе шастаць на цэлы абшар.

Пакуль шэрань засрыбрыць сівізнай
Абамлеўшай зямлі кожны крок,
Пакуль лес апранецца ў бялізну,
Пакуль рэчку абхопіць лядок.

X.

Вось зарыпалі хрыпла вароты,
Дзед зірнуў на гумно, на хлявы.
«Трэба сёнейка вымазаць боты—
Пацьвярдзеюць ад мокрай травы!»

Як угледзіў хлапца, крыкнуў строга:
«Што галуздаеш, шэльма, псякосьць?
Быдла ў хлеве стаіць, бойся Бога,
Ты бакі абіваеш, як госьць!»

І паплёўся дзядочак да хаты
Растрывожаны, злосны такі.
«Неяк пахне ад печы ванадта,
Мабыць Наста пячэ праснакі».

«Да кармежкі мае вельмі рупны,
Не сьняданьне рыхтуюць, а пір;
Ўсё адразу пажруць неадступна,
Гаспадарку ўсю пусьцяць у вір.»

«А зьясі хоць вала і карову,
Дык за гэта ўсё гонар адзін!»
І насупіў калматыя бровы
Наш ашчадны стары селянін.

«Да Калядаў тры месяцы з гакам,—
Парсюкоў ужо колюць аж трох.
Гэта-ж сена касіць ды сабакам!
Каб ты, сынку мой, каменем лёг!»

«Ну, няхай! Я ўжо выпусьціў лейцы,
Хай сынок гаспадарыць! Мне—што?
Як унук на яловай жалейцы,
Пралюлюкае лёс за нішто!»

«Увесь пот, каб іх няньчылі голых,
На кішку прапускаюць яны!
Сабяруць галадранцаў вясёлых
І ядуць з верашчакай бліны!»

«А каб грошы гарусьціў мой Янка,
Гэта-ж—фэ!—грош мазоліць яго!
Гэткіх дзетак хай душыць маланка!»—
І дзед плюнуў ад сэрца ўсяго.

XI.

Азірнуўся дзядок на дзядзінец,
Кінуў вокам на сьвіран стары:
«Прызапасілі новы гасьцінец,
Загавееш душой без пары?»

«Дзе прапала сякера з-пад ліпы?
Трэба латаць стары частакол!»—
І ад дзедава гнеўнага крыку
Разьляцеліся куры вакол.

«Дзе прапала сякера? гэй, чэрці!»—
І пашоў на дрывотнік шукаць.
«Кожны дзень ад іх можна памерці,
Каб іх зыбала чортава маць!»

І ён поркаўся ў трэсках, у кучах,
І рукамі гальлішча капаў,
І сапеў на сьмяцьці, на анучах,
Нібы скарб тут багаты шукаў.

Вось, знайшоў ён сякеру нарэшце
І давай яе пільна глядзець:
Ці сядзіць тапарышча на месцы,
Ці ня выскачыў клін, як шальмец.

Вастрыню пазурамі прабуе
Іківае сівой галавой.
На дзядзінец увесь ён гвалтуе:
«Гэта-ж проста загуба, разбой!»

«Крымінал! дзе прапалі вы людзі!
Гэй, сюды, акаянцы! сюды!
Гэта-ж сьвет такі грэх не забудзе!
Нарабілі тут процьму бяды!»

Нібы двор аблягло пажарышчам,
Бягуць з хаты усе на садом.
«Гультаі! пашчарбалі лязьвішча!
Хоць садзісь на сякеру вярхом!»

Дзед пытлюе сям'ю і пілуе,
Бярэ ўсіх на цыгундар страшны:
«Хто вам, погань, праступ падаруе!
Злыдні! нечысьці вы! груганы!»

А сямейка маўчыць—вінавата,
Толькі брызгае кплівасьцьць ад воч.
«Ды ці варта злавацца так, тата?
Потым будзеш хрыпеці ўсю ноч.»

Так адважыўся сын пікнуць слова
І паклікаў у хату сям'ю.
Хоць дзядоўскія крыкі ня новы—
Надакучылі ўсё-ткі яму.

20/XII—21 г.

## ЗАЧАРОВАНЫ КРАЙ.

### 1. НА ПАЛЕСКІМ БАЛОЦЕ.

І туды і сюды навакола глядзі:
Ўсюды тхлань, усюль гідкае нетра.
Па карчох, па ламох цэлы тыдзень брыдзі,
Цябе душыць гнілое паветра.

Сьцеражыся дрыгвы, бо, як ведзьма, глыне,
Чорт у процьму пацягне за ногі;
Прападзеш пад карчом у дрыготным багне,
Дзе няма ні пуці, ні дарогі.

Сум пануе вакол, страхацьцё і жуда,
Плача каня ў кустох на балоце;
Адусюль на цябе паглядае брыда,
Млее сэрца, дрыжыць у самоце.

### 2. ШТО БЫЛО ДА СТВАРЭНЬНЯ ПАЛЕСЬСЯ.

Зіхацела даўней тут вада, нібы шкло,
Быццам неба ляжелась другое.
І Палескай зямлі тут зусім ня было,—
Быў абшар вадзяністы затое.

Толькі рыбкі ў вадзе зычна плюхаліся тут,
Мігацелі хвастамі на дзіва.
На жар-Сонца глядзеў акунёў цэлы жмут,
Карагод пачынаў палахліва.

Сонца ўсходзіла з хваль, на надводны абшар,
Бо пад коўдрай вады начавала.
Красавалі ў глыбі плоймы колераў, хмар,
Было сонечных косак ня мала.

Неба ў люстры вады аж на самае дно,
На бурштын апускалася чысты,
І дрыжала яно, і блішчала яно
Пэрлямутравай плахтай іскрыстай.

І блакіт расьцьвітаў да нябёс ад вады
Абрусом-палатном з павуціны;
На блакіце—блакіт. За гадамі гады
Гэтак шлі векавечнай пуцінай.

Ветрык хмаркі ганяў, ветрык зыбаў віры,
Ціішыню лёгкім шэптам трывожыў;
Калыхаў Ціш вякоў ад пары да пары,
Бы дзіцё сваё песьціў і гожыў.

Стыгла маць-Ціішыня. Ні людзей, ні зьвяроў,
Ні драўлякаў, ні траў, ні зямліцы...
Вадзяніцаю Цьма з-пад шкляных пустыроў
Выхадзіла на ўзьверх падзівіцца.

Быў нямы Божы сьвет, гібы камень-скала,
Быў нямы даль-абшар над вадою;
Ціішыня, як мара, вандравала, плыла.
Шлі гады так капа за капою...

### 3. БОГ, ЧОРТ І ДУДА.

Ў алатырных палёх Бог на небе сядзеў,
Галубіную кнігу чытаў Ён.
З глыбі вод угару злы нячысьцік глядзеў,
І зьмяіную кнігу трымаў ён.

Ў белай кнізе сьвятой было мудрасьцяў шмат
Аб дабры векавечным, аб долі.
Ў чорнай кнізе страшной было жудасьцяў шмат
Аб сьмяротных грахох, аб нядолі.

Паміж небам-зямлёй самаграйка-дуда
На грудзёх дзеда-Сонца вісела.
Побач ціха плыла сьветлых хмар грамада,
Побач зьяньне блакітнае млела.

Нібы птушкі ў гнязьдзе, спалі гукі дуды,
Іх ніхто ня будзіў навакола
Так плылі, так ішлі за гадамі гады,
Бы з вясёлак адвечнае кола.

З валакністых агнёў ткала даль паясы,
Аздабляла ў нябёсныя краскі;
З яркіх зорак-вачэй ткала даль абрусы,
Дуда спала пад сонечнай ласкай.

## 4. ПЕРШЫ СОН ДУДЫ.

Вось дуда сьніла сон, заварожаны сон:
Матылькамі кружыліся зыкі.
Абляцеў белы сьвет дзіўны тон, вешчы тон
Пад рукамі сівога музыкі.

Сьпеў імкнуў на абшар лебядзіным пуцём,
Дудар граў і сьпяваў гымны-песьні.
Бачыў хаткі сялян, бачыў панскі харом,
Вольны сьвет дудару быў за цесны.

Сьлёзы ў ясных вачох зьялі сьветлай расой,
Акраплялі ратайскія грудзі.
Людзі шлі на агонь. Людзі рынулі ў бой,
Згадаваныя песьнямі людзі.

Нібы хвалі плылі, бы рвануўся сыр-бор,
Грамада шла, гуляла, сьпявала.
І глядзела ўгару на нябёсны прастор,
І надхненьне ў вачох красавала.

Колькі моцы было ў родных песьнях людзей,
Радасьць брызгала сьветлай навалай.
Гукі шчасьця расьлі з гарапашных грудзей,
Зычным выраем песьня лунала.

## 5. ДРУГІ СОН ДУДЫ.

Вось дуда сьніла сон: Абяздолены край
Між балот і лясоў дрэмле ціха.
Па лугох і палёх жабраком ходзіць Бай,
Па шнурох мчыцца Злыбеда-Ліха.

Край той сьпіць, як стары занядужаны дзед
За цямнюткай за курнай пячуркай,
А над краем відаць сьветлы, зорачны сьлед,
Пазахован пад шэраю хмуркай.

Ой, каб быў там пясьняр, сівабровы дудар
У забытай, загнанай старонцы,—
Ён падняў-бы людзей, развярухаў-б абшар
І паклікаў-бы ў госьці да сонца!

Скарб багаты ў зямлі захаваны ляжыць,
Сіла брызгае сьветлай крыніцай.
І прачнецца той край, будзе вечна ён жыць,
Закрасуе зарой-зараніцай.

Самаграйка дуда лятуцела ўва сьне,
На Русь Белую думкай шыбала.
І дуда сьніла сон аб сваёй старане,
Дудара беларуса чакала.

## 6. ЯК БОГ СТВАРЫЎ ПАЛЕСЬСЕ.

Вось уздумаў Пан Бог край Палесьсе стварыць
І людзей і жывёлін і птухаў;
І вяроўку пачаў Ён з праменьчыкаў віць,
І сівую патыліцу чухаў.

Па вяроўцы з нябёс апусьціўся ў ваду,—
Бог—вялікі штукар на ўсе рукі;
Захапіў Ён з сабой самаграйку-дуду,—
Маюць сілу вялікую гукі.

Ледзь падумаў загад—крышталёвы чаўнок,
Як цудоўны мянтуз, паказаўся.
І сявалка ў чаўне. Ў той сявалцы камок,
Як шаўковы клубок разьвязаўся.

Разьвязаўся клубок: дыямэнтавы мак
Заіскравіў, напоўніў сявалку.
Бог бярэ на вагу, Бог прабуе на смак,
Такіх зерняў ня еў Ён і змалку.

«Вось насеньне—дабро, любата, цекната!
Гэтым сьвет тут засеяці трэба!
Тут хай будзе лясок, там—трава-асата,
А далей—чарназемная глеба».

Бог плыве на чаўне ды мяркуе туд-сюд,
Нібы добры ратай гаспадарны;
Сыпне жменю дабра—і расьце, проста цуд,
Пушча-лес, нібы сад вялізарны.

Вада шчыліцца—ў міг выступае гаёк,
А за гаем—лугі, сенажаці.
Зеляненюць палі і шуміць каласок,
Ажыла ўся зямеліца-маці.

Выступаюць ушыр, разьлягаюцца ўдаль
Лугі, пожні, даліны і ўзгоркі.
Кветкі граюць, блішчаць, зелень ладзіць свой баль.
Мігаціцца раса, нібы зоркі.

Прамяністым агнём сонца грэе зямлю,
Аздабляе луг сьвежы і сочны.
Цяплыня... Хоць дзіцё палажы на ральлю,
Дык пачне тут расьці відавочна.

## ІГРАЮЧЫ НАДУДЗЕ, БОГ СТВАРЫЎ ПТУШАК, ЗЬВЯРОЎ І ПЕРШАГА ПАЛЯШУКА.

Ой, пачатку няма, ой, канца ня відаць
Шчыр-красе агняцьветаў і хварбаў.
Вось, давай на дудзе Бог іграць ды іграць—
І зьявіліся новыя скарбы:

Замільгаў матылёк, зашумела пчала,
Зух-стрыгунчык між травак туркоча.
І зязюля пяе, кволы гук завяла,
Громка болбатка ў лесе балбоча.

Грае Бог на дудзе. Лось выходзіць на лог
З лагавішчаў дрымучага бору;
Тур лагодна глядзіць на атару ў палёх,
Што пасецца на вольным прасторы.

Грае Бог на дудзе і плыве песьня-гук,
Бог насеньне вакол раскідае.
На паляне стаіць, нібы дуб, паляшук,
Першы раз Божы сьвет аглядае.

Выкрасае агонь, дыміць люльку ўзасос,
І магерку кідае на камень;
Зірк туды і сюды—увaходзіць у стос,
Бурчыць: «Хату збудую тут. Аман!»

Шмат клапот, шмат турбот, паляшук, будзеш мець—
Ты глядзі, ня спудлуй, а трымайся!
Прападзеш, як разок заваронішся ледзь,
Над сабой пастыром быць старайся.

Дзеі-думкі твае—гэта стада гаўяд
На даліне абшырнай жыцьцёвай.
Пуга-цямлівасьць іх хай бароніць ад здрад,
Няхай рупнасьць трымае ў захове.

Станеш пасьвіць як сьлед—будзеш сыты і сам,
Пачне Доля па нітцы скакаці;
Загультуеш—карысьць будзе злыбедам-псам,—
Загрызуць цябе ў полі і ў хаце.

## 8. ЧОРТ УКРАЎ У БОГА НАСЕНЬНЕ, А БОГ НІБЫ-ТО НЯ ПРЫКМЕЦІЎ.

Бог плыве на чаўне, а тымчасам злы чорт
Круць і верць вакол Божае вабы.
Чорт з рагамі, з хвастом і худы, як той хорт,
Чорт—гідкі і сьлізкі, нібы жаба.

Нібы ўюн, туд і сюд вакол Бога шальмец,
На насеньне ён сьлюнкі пускае;
Трэ аб човен бакі, дасьць пад човен нурэц,
Дразьніць Бога, як малпа дурная.

Раптам лапу тыц-мыц, цапнуў жменю дабра,
Проста з рук вырваў Божых чарцюга.
Ён насеньне глынуў і паплыў, як мара,
Рагатаў жарабцом лайдацюга.

Бог маўчаў—яму што? Кончыў працу. Назад
Па вяроўцы ўскарабкаўся ў неба.
На аблоках ляжыць. Спачывае, і рад,
Што нацацкаўся болей, чым трэба.

### 9. ПАЛЯШУК ГРАЕ НА ДУДЗЕ.

Кінуў з неба дуду на зямлю Бог уніз,
Паляшук ад яе слодыч мае.
Скача поле і лес, скача зьвер сярод хмыз,
Як ратай на дудзе заіграе.

І дабрэе злы воўк; ён глядзіць, бы ягнё,
І ківае ў лад-тахт галавою.
Нібы рой галубкоў, замаўчыць груганьнё
І нясецца над мягкай ральлёю.

Ня кусае вужак; ён зьвярнуўся клубком,
Заварожаны слухае граньне.
Хоць у рукі бяры, пераразайся вужом,—
На цябе, як анёл той, ён гляне.

Паляшук на дудзе пасьля працы цяжкой
Грае цэламу сьвету на дзіва.
Адыходзіць, як цень, жальба з цяжкай журбой,
На душы бы хто мажа алівай.

Плывуць гукі ў прастор, нібы птушкі нябёс,
Разлягаюцца пошчакам дробным.
Рады краскі, трава; ў сьвітках—кропельках рос—
Апранаюцца пышна, аздобна.

І журчыць ручаёк, байку-казку пляце,
Дудару вельмі шчыра уторыць,—
Во' ад чараў дуды ўся зямля запяе,
Зараз камень нямы загаворыць...

Ой, на сьвеце няма ні мацней, ні пякней
Зычнай песьні і простай і шчырай;
Паляшук нават сьмерць забывае пры ёй,
Яго сэрца пускаецца ў вырай.

Думка рэчкай плыве ў заварожаны круг,—
Угару да зарыз-араніцы,
І вяртаецца стуль, як расіца на луг,
Нібы кропля да роднай крыніцы.

### 10 ЯК ЧОРТ СТВАРЫЎ БАЛОТА.

Чорта гне у дугу, бельмы лезуць на лоб,
Ў жываце забурчала занадта;
Бы атруту глынуў, бы глынуў горкі боб—
То зашкодзілі Божы зярняты.

Ён крычыць на жывот, бо пачала расьці
Раптам чэрава ў стог вялічэзны,
Расьпірае бакі, ні сапсьці, ні храпсьці,—
Распучыўся ў гару ваўкарэзны.

І пачаў ён бляваць, мэкаць, нібы каза,—
То вылазіць крадзёнае бокам;
Там, дзе плюне,—расьце гнілы корч і лаза,
І ракіта і дзіч ненарокам.

Чорт снуе, як павук; выпірае аж дух.
Плюе, хракае серкай, крывёю;
Ён паганіць ваду цэлай кучай рапух,
Рабакамі і дзікай травою.

Яму моташна-страх, аж хвастом лясь і лясь,
Дзе рыгне—камары, авадні́шчы;
З губы кушіны пруць,—скок і скок, плясь і плясь,
Чорт паскудзіць ваду, брудам нішчыць.

Ад натугі язык целяпаецца ўздоўж,
І тырчыць, нібы шост сукаваты.
Ўвесь запеніўся чорт; ён сьлізкі, як той смоўж,
А плюецца, плюецца рагаты.

Там, дзе плюне,—багно і рудаўка, трава,
Тхлань трасецца, лапоча, дрыгоча;
Чадзіць голаў багун, сасе п'яўкай дрыгва,
То паморак, то трасца якоча.

Чорт нарэшце за корч зачапіўся, рыгнуў—
З жывата ўсё насеньне рванула;
Забурчала, аж бор у далі ўздрыгануў,
Аж сава дзікі сьпеў зацягнула.

Апаганіўся ўвесь чысты водны прастор,
Стаў ён чортавым вечным балотам:
Там пашлі панаваць страхацьцё, сьмертны мор,
І начніца і цмок пад чаротам.

Чарцяняты кішаць, нібы вар у катле,
Іх гадуе там чортава матка;
Паратунку няма ад іх проста нігдзе,—
Прыстаюць да лапцёў, да апраткі.

Як замуцяць народ, як пачнуць штось шаптаць,
Хто паверыць ім—пэўна загіне;
Напсуюць шмат людзей, хоць гаці іх на гаць,—
Нечысьць строіць пякельныя кпіны.

## 31. ЧОРТ ВАРЫЦЬ СІВУХУ НА ЗАГУБУ ПАЛЯШУКУ.

То ня вецер гудзіць, ня шуміць сухавей,
То ня гойдаюць злыя віхуры;
То над борам ня мчыць чарадзейны цар-зьмей,
То ня ладзяцца плачы-хаўтуры.

Гэта ў медных катлох між зачумленых вод
Вадзянік варыць жыжу-атруту;
Там і хмель, і палынь, і пякельны смурод—
Для людзей на лайдацтва, пакуту.

Многа бочак стаіць між балотных карчоў,
Іх пільнуюць-вартуюць вужакі;
Жыжа пенай бурліць, блішчыць соткай вачоў.
Ой, шалёныя будуць прысмакі!

І гартуецца моц, і сталюецца крэп,
І пячэ агнём, плягай пякельнай;
Голаў круціць, бы ўюн, і малоціць, як цэп,
Глузд туманіць бамбэнкам вясельным.

Ня дыміцца туман—курыць люльку сваю
Вінакур-вадзянік сярод ночы.
Нечысьць вабіць людзей, нечысьць ладзіць гульню,
Дым туманіць у самыя вочы.

Паляшук моцна п'ян; скача, песьні пяе,
Лье у глотку нячысьцікаў трунак;
Ломіць-крышыць усё, бацьку роднага б'е,—
Дзеці клічуць людзей на ратунак.

Як за клямку з дзьвярэй, цягне чорт за язык—
Паляшук нешта брыдка гавора;
Ён хрыпіць, як вапрук, ён раве, як той бык,—
Па калена яму тады мора.

Працу кіне вусім, голад вострыць свой зуб,
Гніе хата і дохне скаціна,—
Прападзе паляшук. Гэта чорт-душагуб
Яго зьверне з праўдзівай пуціны.

## 12. ЧОРТАВА ЛАЗА АБХАПІЛА ПАЛЕСЬСЕ. ШТО З ГЭТАГА ВЫШЛА.

Урадзіла лаза. Нясе ліха з сабой,
Перашла ад балота на поле,—
Проста рады няма, стаіць дзікай сьцяной,—
Паляшук праклінае лёс-долю.

Тут агледзіўся Бог: цэлы край прападзе
Пад чартоўскай пляцёнкай-заховай;
То-ж Палесьсе, як дзед, барадой абрасьце
Кучаравай, калючай, лазовай.

Давай сонцам пячы, давай парыць ваду—
Яшчэ болей расьце, вырастае.
І мароз Бог паслаў на лазу, на брыду,—
А лаза не баіцца, ня дбае.

Зноў бярэцца яна на вясну, як вязель,
Заглушае лугі і паляны;
Лезе ў вочы і ў твар, як дакучлівы чмель,
Сваёй лапай чартоўскай паганай.

I злуе паляшук, і сякеру бярэ,
I кусты ён цярэбіць адважна.
Няма ведама скуль, на сустрэчу чорт прэ,
Секачу ён шапкуе паважна.

Чорт частуе яго з капшука тытуном,—
Паляшук гэта зельле смакуе.
Чорт ратая заве гультаём, ласуном,
З яго люлькі жартуе, шуткуе:

«Ты радзіўся, мабыць, з сваёй люлькай ў губах,—
З губ ня выпусьціш люлькі ніколі;
Ты прывык да яе, цёнгля дыміш, аж страх,
Душыш дымам гаркім сваю долю».

«Загарыцца твой кут,—няма як ратаваць,—
Насагрэйкай сваёй ты заняты.
Прыдзе Сьмерць па душу—няма як паміраць,—
Тытуну йшчэ асталась багата».

«За жыцьцё тытуну спаліш ты цэлы стог,
На той сьвет ты паедзеш вандзонкай;
Гібель бочак віна выпівай. каб ня ссох,
Каб лілася, як рэчка, гамонка.»

I хвастом ляснуў чорт—з-пад лазы гоц і гоц—
Скача пляшка за пляшкай сівухі;
Паляшук п'е на гвалт, паляшук п'е на моц,
Абліваецца чортавай юхай.

«Кінь лазу цераб'ць—кажа чорт,—лепш дуду
Прынясі ды зайграй мне вясельле.»
I пашоў паляшук па дуду на бяду
I ад бабы дастаў на пахмельле.

### 13. ЯК ПАРАВІЛІСЯ ЧАРТОЎСКІЯ ДАРОГІ І ЯК ПАЛЯШУЧКА ЗРАБІЛАСЯ ВЕДЗЬМАЙ.

Жонка б'е мужыка той чартоўскай лазой,
Паляшук нешта сп'яну бармоча.
Чорт вясёлы глядзіць, круць і верць галавой
I віляе хвастом і рагоча.

Тутка рады няма, сама баба пашла
Церабіці лазу, драць на лыкі;
Ўе вяроўкі з кары, супачыць прылягла,—
Дзень пагодны, лагодны, вялікі.

Прывалюхаўся чорт. «Хто тут лыкі дзярэ?
Ды на што табе, свацьця, вяроўкі?
Нашто губіш лазу?»—Чорта сполах бярэ;
Распускае кабета шнуроўкі.

«Хочаш ведаць на што? Зара я пакажу.
Стань во' тут, каля гэтага дуба;
Я на рукі твае во' лычок палажу!»
Баба чорта рукою галубе.

Чорт раскіс і разьмяк, анямеўшы стаіць;
Так стаяў-бы гадамі, здаецца.
Баба лашчыць яго, росным вокам блішчыць
І сьмяецца, сьмяецца, сьмяецца.

Скрампавала яго да таўшчэзных сукоў
Лычаком і вяроўкай пляцёнай;
А лазою давай лупцаваць па бакох,—
Задрыжалі чартоўскія стогны.

Чорт рвануўся раз-два, вырваў дуб векавы
І сунуў з тоўстым дрэвам наўцекі;
Барануе зямлю, прабівае равы,
Паратунку шукае ад зьдзекаў.

Баба мае свой спрыт і так сама ня сьпіць,
Моцна села на дуб і кіруе:
—Гэй, налева!—крычыць,—гэй, направа!—крычыць,—
І лупцуе, лупцуе, лупцуе.

Толькі пошчак гудзіць; вые чорт, нібы, воўк;
Грукат-стукат чуваць паміж дрэваў.
Чорт аслаб уканцы; зубы сьцяў ён і змоўк.
Грыміць баба: «Направа! налева!»

Бегаў чорт, узьвярнуў шыр балотных раўнін,
Нарабіў ён брады, брадзяняты;
Дзікіх выскацяў шмат, без канца азярын,
Вызяроў і кайдобін багата.

Па сягонешні дзень асталіся сьляды,—
То чартоўскія сьцежкі, пуціны;
Ні праехаць па іх, ні прайсьці нікуды
Няма як. А хто пойдзе—загіне.

Чорт засеў у глушы, з дуба бабу сьцягнуў
І зрабіў яе ведзьмаю лютай;
Ажаніўся ён з ёй і на вёскі сунуў
На нядолю людзям і пакуту.

### 14. АГІДНЫЯ ЎЧЫНКІ ВЕДЗЬМЫ.

Сядзіць ведзьма ў кустох, а над ёю сава
Шэрым скрыдлам плюгавым лапоча;
Крэхча жабай, дрыжыць, як жывая дрыгва,—
Ведзьма ціха замовы шапоча.

А жар-месяц глядзіць на калматы гушчар,
Нібы твар агняшчокі, чырвоны.
Ой, Палесьсе замрэ ў ланцугох ночных чар,
У сталёвых кіпцёх забабонаў.

Ваўкалакам страшным ведзьма душыць дзяцей,
Лезе чорным катом у сялібы;
Губіць спрэсу народ, муціць бедных людзей,
Кожны прэ на ражон і на хібу.

Плодзіць-родзіць чарцей, знахароў, ведзьмароў,
Паслугачак, шаптух усюль мае;
То падвеем ляціць з-пад дзікіх пустыроў
Паляшучка, вядзьмарка старая.

На людзей, на быдлё шле бяду за бядой
І бядой паганяе, бы пугай;
Замятае сьляды чараўніцкай мятлой,
Затуляе гнілою дзяругай.

Пусьціць дождж на зямлю, сыпне град ільдзяны,
З зачарованых горных харомаў;
Душаць кур і гус й карпуны, груганы,
Губяць збожжа страшныя заломы.

Сонца паліць-гарыць, нібы прысак—пясок,
Хоць пячы ў ім яйцо, як у печы.
Пошасьць, трасца бярэ, есьць дзяцей страшны Цмок.
Усіх поедам есьць і калеча.

## 15. ЯК ПАЛЯШУКІ ЗМАГАЮЦЦА З ПАМОРКАМ.

Людзі б'юць шаптуноў, у магілы кладуць,
Да зямлі прыбіваюць асінай.—
Ведзьмакі-мерцьвякі ня ідуць ня брыдуць
Па начох таямніцай-пуцінай.

Людзі ў пушчу ідуць; з усіх сіл грамадой
Вырубаюць высокую хвою;
Рубяць крыж, валакуць да ракі талакой,
Ставяць крыж на гары за ракою.

Дзяцюкі аб той крыж брусок ясеня труць,
Губку ў міг да бруска прыкладаюць:
Загарыцца яна, агонь людзі бяруць,
Ва ўсіх хатах з яго запаляюць.

І гарыць дзень і ноч, і балуе агонь,
І пад крыжам ня зводзяць агнішча.
Дзед Паморак дрыжыць, як спалоханы конь,—
Ня пускае яго пажарышча.

Ходіць-бродзіць адзін між карчышчаў балот
Страшны дзед аднавокі, калматы;
Прэ да вёсак, да сёл, дзе вартуе народ,—
Дзед праплішчыцца думае ў хаты.

Пападзе на агонь, пападзе на ваду,—
Яго смаліць агонь, вада топіць.
Люд дрыжыць і глядзіць на Паморка-брыду,
Вочы пільна ў яго утаропіць.

«Ой, пусьцеце мяне; я вам шчасьце нясу,
Векавечнае шчасьце такое...
Я вам радасьць даю, нібы божу расу,
Ой, пусьцеце-ж у хаты затое!»

«Таго шчасьця няма ў ратаёў пры жыцьці,—
Яго мае кароль і нявольнік;
Яго можа багаты і бедны знайсьці,
Слаўны пан і палескі бяздольнік.»

«Гэта сьмерць, гэта сьмерць...»—кажуць людзі кругом.
«Адыйдзі-жа! акыш! мы ня хочам!»
А паморак стаіць, як той цень над агнём,
Вокам зіркае, штосьці шапоча.

Расплятаюць тады бабы косы свае
І скідаюць апраткі да гола;
Грамада голых баб шумна песьні пяе,
Аб'яжджае сахой вакол сёлаў.

І равок-баразна мае моц, як ніхто,—
Сьмерць яго не пяройдзе ніколі.
Дзед-Паморак злуе, ажна плакаць гатоў,
Ходзіць-бродзіць па чыстым па полі.

## 16. ПАЛЯШУК ПЛЯЖЫЦЬ ЛЕС І ВЫКАРЧЫВАЕ БАЛОТА.

Шуміць бор векавы. Лясун гойкае—страх.
Ён тут пан-уладар сярод пушчы.
Паляшук пляжыць лес. Стук і стук, трах і трах,
Толькі пошчакі граюць у гушчы.

Кружыць чорт секача. Не баіцца мужык,—
Дзераўлякі ён лысіць сякеркай;
Не заблудзіцца ён, бо да лесу прывык,
Як да сьвіткі сваёй, да магеркі.

Валіць хвою і дуб, для будоўлі кладзе,
Чысьціць лапікла, шчыра карчуе;
Сее збожжа, арэ, бараною вядзе,
І бяды за сабою ня чуе.

Жыта жнуць і пяюць, урадзіла зямля,
Жняём ладзіць дажынкі араты.
Рэчка грае, бурліць; мёдам пахне ральля,
Сонца грэе вясковыя хаты.

Хаты лезуць у лес ўсё глыбей і глыбей,
Лясуна і нячысьціка грабяць.
Лясун стогне—лясы ўсё радзей і радзей,
А балота людзей вельмі вабіць.

Высыхае яно. Чорт сунуў аж да дна,
Бо людзей пачынае баяцца.
Чорта сполах бярэ. Страшыць сіла адна—
Гарапашная, шчырая праца.

### 17. ВОСЕНЬ, ЗІМА, ВЯСНА І ЛЕТА.

З шчылін бору ў вакно Восень пільна глядзіць
Шэрым бельмам сьлязьлівым, балючым.
Лес шуміць і дрыжыць, і зьвініць, і гудзіць
Жоўтым лісьцем шуршавым, дрыжучым.

Ўсё Палесьсе тады у туманістых мглох,
У вільготнай і сьлізкай апратцы.
Хтось брыдзе па дрыгве у парваных лапцёх
Па зыбучай патрэсканай кладцы.

А па Восені ўсьлед надыходзіць Зіма
У сьнежным вэльме вандруе па лесе;
Сьцеле-беліць абшар, проста месца няма,
Дзе схавацца тады на Палесьсі...

Ўсюды нечысьць кішыць і таўчэцца круцель,
Спрэсу гурбай сялібы заносіць.
Нібы ў млыне страшным, трэцца-меліцца бель,
Вея ў трасцы трасецца, галосіць.

Гэта чорт выдае замуж дочку сваю
За брыду-ведзьмака-ваўкалака;
На балоце йдзе баль, ладзіць нечысьць гульню,
З мерцьвякоў гасьцём смажыць прысмакі.

Мчыць мяцеліца ўдаль, завіруха круць-верць,
Ваўкі выюць на сівых курганах.
Вужы-косы скубе адзічэлая Сьмерць,
Пакідае сьляды на палянах.

Чорт марозіць людзей, губіць-душыць іх шмат,
Ён пякельную злосьць спаганяе.
Людзі гінуць усюль—каля сёл, каля хат,
Ім усюды—магіла нямая.

Толькі літасьціў Бог,--прысылае Вясну;
Сонца грэе, сьнег тае і нікне.
Прабуджаецца сьвет ад зімовага сну,
Нечысьць корчыцца, з стаху ня пікне.

Зноў балота-дрыгва пад бурлівай вадой,
Плывуць крыгі, мільгаюць, бы качкі,
Пні, карчы і кусты па вадзе грамадой,
Аж скрыпяць, аж дымяць ад гарачкі.

Паляшук на чаўне не баіцца плысьці—
Яму ўсюды дарожанька вольна.
Ці ня хоча ён лёс, долю-шчасьце знайсьці
На прасторы празрыстым, прывольным?

Думу думае ён, штось сьпявае ў душы,
Бы дуда у грудзех, а ня сэрца.
Адчыняе сакрэт, скарб Палескай глушы,
Нібы піша яго на паперцы.

Лета песьні пяе у вянку з васількоў
І стаіць на шаўку, аксаміту;
А гарсэцік яе—з залатых каласоў,
Саматканка-хвартух—з сінь-блакіту.

Сьлепіць шыйку яе росных пацеркаў жмут
З буйных ягад, чырв ных, як золак;
Песьціць грудкі яе абручок-баламут,—
Паясок з сяміцьветных вясёлак.

Там, дзе ступіць нагой—траўка-хохлік зірне,
Там на сонца ўгару гляне кветка;
Там, дзе кіне свой зрок—яркі сьвет мільгане,
І праменяцца шчасьцем палеткі.

### 18. ПЛОЙМЫ ЗДАНЬНЯЎ ПАНУЮЦЬ НАД ПАЛЕСЬСЕМ.

То ня сны-туманы, ня імгла аблягла
Густым невадам пушчы, даліны,—
Гэта ўздоўжку ў шыр-даль зданьняў цьма наплыла.
Як паводка, ў Палесьсе-краіну.

Крычыць мшалы Лясун «го-го-го!» у бары,—
Ён лясны гаспадар ганаровы;
У кароне з гальля, ў сьвітцы з цёмнай кары
Ён сядзіць на пасадзе дубовым.

Хопіць-топіць людзей у вадзе Вадзянік,
Хор русалак там ладзіць ігрышчы.
У хаціне жыве стары дзед Дамавік,
Злы Гуменьнік жыве на гумнішчы.

За пячуркай старой каты-Злыдні сядзяць
І трывожаць людзей беспрастанку.
Шлюць-завуць на людзей дзіка-смаглую рацьь
Трасавіц, злых Мароў, Ліхаманкаў.

Ой, страхоцьцяў зашмат мае наш паляшук,
Шмат пякельных, агідных прывабаў.
Ў старых пустках гудзіць адзінокі Кадук,
На гародах—Жалезная баба.

Зух-Паляруш імчыць звар'яцелым віхром,
Ён вясковых калечыць і бэсьціць.
Саранчою вісяць над забытым сялом
Беды розныя, розная нечысьць.

А на крушні сядзіць у тумане ў расе
Краска-дзеўчынка голая—Доля;
Яе грудкі вужак цёнгля смокча-сасе,
Плача бедная ў чыстым у полі.

Па пуцінах-шляхох залягла Варажба,
Павуцінай плятуцца Замовы.
Рвецца вужам з грудзей то Праклён, то Бажба,
Пырх і пырх ад заховы ў захову.

І чакае народ ад нявідзімых чар
Збаўцу сьветлага, гожага Воя;
Аб ім мараць і сьняць і глядзяць на папар—
Ці ня сьвеціцца постаць гэроя.

Яго шлях—млечны шлях, яго маць—сонца маць,
Яго зброя з праменьняў вясновых;
На пукатых грудзёх зараніцы блішчаць,
Яго вочы—з вясёлак агнёвых.

На высокім чале сьвеціць сонца, як жар,
Месяц ясны ў руках ён трымае;
Ў сьмелым сэрцы яго шуміць вечны пажар
Зычнаколернай хваляй буяе.

Прыдзе збаўца такі. Ён затрубіць у рог.
Рой зданьнёў, як туман, здрыганецца,
Прападзе наўсягды. Будзе вольна ў палёх.
Сьветлым Розумам Вой той завецца.

Забудуецца край. Загрыміць на ўвесь сьвет
Нябывалаю славай-грымотай;
Паляшук зажыве, бы пад сонцам мак-цьвет,
Заваюе навекі балота.

## 19. ІЛЬЛЯ ПАЛЮЕ ЧАРЦЕЙ. ЦМОК НІШЧЫЦЬ ПАЛЯШУКОЎ.

Над Палескай зямлёй полаг неба вісіць
Вялізарнай тканінай шаўковай.
Рослы волат-ратай—Сонца ў неба стаіць
І блішчыць галавою агнёвай.

Гляне вокам уніз, патрасе галавой,—
Рассыпаюцца кудры-праменьні;
Неба рупна арэ залатою сахой,
Сее іскры-дабро поўнай жменяй.

Стада хмар ён пасе, штук нязьлічана шмат,
З крышталёвых крыніц ён іх поіць;
То пагоніць у кут, то іх верне назад,
Над Палескай ральлёй ён іх доіць.

Малако льецца ўніз, бы з вядра плюх і плюх,
Корміць-сыціць абшар лугавінаў.
А тымчасам імчыць па балоце злы дух,
Ён з вясковых людзей строіць кпіны.

А нячысьцікі ўсе пад вадою кішаць,
Толькі бурбаўкі пырсь сінім кругом.
Вось задумаў Ільля тут чарцей паляваць
Над балотам, над лесам, над лугам.

Разыграўся грымот, смаліць-паліць пярун.
Кіпіць неба, маланка балуе.
Сярод дня сее мглу Ільля,—строгі вяшчун,
Ён чарцей, нібы качак, палюе.

Ільля громам грыміць: «Так, так, так! Го-го-го!»
«О, лупі яго, бі яго, гада!»
«Трах, трах, трах па зубах, ды па карку яго!»
«Трэсьні раз і другі ў гэту здраду!»

Паласуе дубы, запаляе стагі,—
Надта жутка на шэрым балоце.
Мокнуць дрэвы, кусты; плачуць поле, лугі,
Усё Палесьсе ў бель-поце, ў вільгоце.

І пануе Жуда, стогне-крэхча Туга
На балоце, над полем, над гаем.
На абшарах нябёс грае хварбай дуга,
То каняку Ільля запрагае.

Трэба ехаць дамоў на спакой-супачын,
Трэба даць мужыку касіць сена;
Трэба на зіму шыць кажух з белых аўчын,
А гаспода бяз дроў—ні палена.

І паехаў Ільля, а тымчасам злы Цмок
На ўсіх тубыльцаў сее дрыготы.
Шмат глытае людзей, іх пужае знарок
Яшчэ горай, чым нечысьць з балота.

Няма рады—хоць плач, каму плакаць няма,—
Асталіся пустыя сялібы.
Над Палесьсем злы Цмок вісіць цёмны, як, цьма,
Увесь край апямеў, нібы рыба.

### 20. АСІЛАК ЗАБІЎ ЦМОКА, А САМ СКАМЯНЕЎ У КУРГАН.

На той жудасны час, у палескай глушы
Жылі ў згодзе ў любосьці дзед з бабай.
Ня было ў іх дзяцей, было добра ў цішы—
Ня было ў іх для Цмока прывабы.

Дзядок дровы сячэ, баба воўну прадзе.
Так плыве дзень за днём ў адзіноце.
Не баяцца бяды, хоць жывуць у бядзе,
Не баяцца жуды на балоце.

Але здарыўся цуд: зорка ў небе мігціць,
Паглядае на хатку крывую;
І расьце і цьвіце, і на хатку глядзіць,—
Апусьцілася ў хатаньку тую.

Пакацілась клубком, залатым галубком
Над бабуляй яна залунала.
Зорка стала прад ёй дзіцянём-хлапчуком,
Было клопату ў бабы ня мала.

Рос хлапчук вельмі хутка—па днёх, па начох,
Вырас моцным асілкам высокім;
Ступіць крок—грук ідзе па лясох, па палёх,
Грэе-лашчыць усё ясным вокам.

Вырваў з корнем сасну і на Цмока пашоў
Ваяваць па абшырным балоце.
Брыў-хадзіў доўгі час, таго Цмока знайшоў,
Пачалася там бітва—страхоцьце.

Аж стагнала зямля, аж дрыжала багно,
Аж кіпела вада, бы ў катлішчы.
Кінуў Цмока ў вір-глыб аж на самае дно,
Ад крыві парудзела багнішча.

Волат рад, волат горд сваёй сілай страшной,
А няма з кім падужацца болей.
Ў неба стук галавой, трах па сонцы сасной,
Нібы ўночы, сьцямнелася ў полі.

Волат рад, волат горд крэпам плеч, сілай рук,
Кроў у жылах гарыць і буяе.
Кулаком аб зямлю грук і грук, стук і стук,
Зацьвіла на душы думка злая:

Пачаў сьвет на свой лад гартаваць, папраўляць,
Перайначыць нанова парадкі;
Выпіў воду з вазёр і давай абліваць
Тэй вадою сялянскія хаткі.

Ўзгоркі соваў рукой,—то адзін, то другі,—
Нібы порхаўкі, з месца на месца;
Кінуў луг на лясы, кінуў лес на лугі,—
Няма з сілай сваёй куды лезьці.

Моц па сэрцы стучыць, крэп гудзіць па касьцёх,
Мучыць волата дзікая смага:
Трэба штосьці рабіць на прасторных палёх—
Усё роўна, ці добра, ці блага!..

Зазлаваўся Гасподзь.—Чараўніцкі туман
Спутаў волату рукі і ногі;
Дзікім мохам пакрыў, скамяніў у курган,
Што стаіць і цяпер ля дарогі.

## 21. ТОЕ, ШТО БЫЛО ДАЎНЕЙ, АСТАЛОСЯ І ЦЯПЕР, ТОЛЬКІ Ў НОВЫХ ВОПРАТКАХ.

Што было, тое й ёсьць, тое й будзе яшчэ,—
Заўжды кажа прымоўка людзкая.
Бог на груцы вякі, нібы збожжа, таўчэ,
Нібы лушчаны боб раскідае.

Барацьба ўсюль ідзе, няма ладу ані,
Жыцьцё вопраткі часта мяняе.
Нібы хмаркі нябёс плывуць хвілі і дні.
Пугай Сьмерці іх Дух паганяе.

Быў Ярыла калісь богам неба, зямлі,
Кіраваў цэлым сьветам вякамі.
Нарадзіўся Хрыстос—і мяняцца пашлі
На Палесьсі паны за панамі:

То Купальле--то Ян, то Пярун--то Ільля,
Ражство Бога—заместа Калядкі.
Замест зор—сьвяты крыж. А сьвяткуе зямля
Тыя самыя даўныя Сьвяткі.

Аб іх песьні пяюць жабракі-дудары,
Аб іх баечнік сказы складае;
А пісьменны аб іх ад пары да пары
Мужыку, нават, кніжкі чытае.

Не паможа ў бядзе, ці кажы—не кажы,
Без бяды абыйсьціся ня можна.
Усё мае мяжу, нельга жыць без мяжы,
Гэта знае і ведае кожны.

На тым сьвет і стаіць, бо чаго-ж бы і жыць.
Калі-б людзі ня мелі жаданьня?—
Трэба вечна хацець, трэба вечна тужыць,
Пакуль не забярэ Сьмерць-кананьне.

### 22. СТАРЫ ДУДАР СХАВАЎ СЬМЕРЦЬ У РАЖКУ. ЛЮДЗІ ПЕРАСТАЛІ ПАМІРАЦЬ І ЗРАБІЛАСЯ ЯШЧЭ ГОРАЙ.

Сьмерць брыдзе і касой косіць старых, малых,
Нібы ведзьма пякельная тая.
Раз вандруе дудар па пуцінах лясных,
У гушчэчы ён Сьмерць сустракае.

Стала цёмна ў ваччу. Дастае ён ражок,
Каб панюхаць табакі шчапотку.
Ён ад страху дрыжыць, лезе трасца праз бок,
Ражаном стала ў горле хрыпотка.

Сьмерць вітае яго, адкідае касу
Здрацьвянелай сваёй рукой-косткай.
«Пакуль Богу душу я тваю панясу,
Дай сюды тытуну на пачостку!»

— «Нюхай!»—кажа дудар,—ражок тыц ёй пад нос,
Востры дзюб сьмерць бліжэй падстаўляе.
«Ой, тытун твой слабы, як трава; дзе ён рос?
Моцы-крэпу ні трошкі ня мае!»

— «Калі так,—у ражок лезь і нюхай як сьлед,
Будзеш чыхаць, праветрыцца голаў.»
Сьмерць палезла ў ражок, зачыніў яе дзед
І да хаты пашоў ён вясёлы.

Сядзіць Сьмерць у ражку: чых і чых, стук і стук,
Штосьці глуха і хрыпла лапоча.
Песьні грае дудар, стары дзед паляшук,
Робіць тое, што ўздумае, хоча.

Люд працуе, жыве; прайшоў год і другі,
На Палесьсі ніхто ня ўмірае.
Зелянеюць лугі і бялеюць лугі,
І жывецца ратаям, бы ў раі.

На шнурох—ураджай, у снапох—умалот,
Разьвялося гаўяды бяз ліку.
Дзяцей шмат у сям'ёх, распладзіўся народ
Грамадою бясконца вялікай.

Так прайшло гадоў сто, а мо' болей за сто.
Бог людзей усё множыць на сьвеце.
Надаела старым; дзед памерці гатоў,—
А, як хоча, ня можа памерці.

І людзей і быдля на зямлі, як гара,—
Во' зямелька разваліцца зара.
А даўненька-даўно ўжо памерці пара,—
Гэта-ж Божая, лютая кара...

Хай паморак, вайна выратуюць зямлю,
Хай ачысьцяць мяцёлкай віхурнай.
Надаела жыцьцё, адкідаюць гульню,—
Зажадалася песьні хаўтурнай.

А буяе зямля. хоць ратай не арэ,
Плодзіць-родзіць дабро без аддухі.
Ратай лезе ў багно, а багно не бярэ,
Не бярэ на балоце зыбуха.

Ратай лезе ў пятлю, рэжа горла касой,
Сабе дол на гародзе капае;
Кроў пальецца ад ран жыватворнай вадой,
Бедакоў мацьзямля ня прымае.

Наракае народ, што дудар вінават,
Бо ён сьмерць у ражку запалоніў.
«Дай нам шчасьце, дудар,—ці ты рад, ці ня рад!—
Пусьці Сьмерць нам на родныя гоні!»

Адчыніў дзед ражок, бо няма што рабіць,—
Людзі самі жадаюць загубы.
І пашла Сьмерць гулянь, і пашла Сьмерць касіць
На галодныя, вострыя зубы...

## 23. СЬМЕРЦЬ ДУДАРА І ХАЎТУРЫ ПА ІМ.

То ня рвецца струна, то ня лебедзь пяе,
То ня ломяцца скрыдлы сакола—
То канае дудар. Сум пануе ў сяле,
Прычытаньне чуваць навакола.

Зайшло сонейка ў бор, апусьцілась жуда,
Як кажан, чорным скрыдлам мільгае.
На каго-ж цябе, сірац на-дуда,
Сівабровы дудар пакідае?

Анямее твой гук, засмуціцца загон,
Будуць жнеі тужыць на дажынках.
Рване сэрца, душу хворы стогн, ціхі стогн
Бяз дуды на гульнях-вечарынках.

Без зязюлі-дуды на гады край засьне,
Будзе нема маўчаць, як магіла.
І чырвоны, бы кроў, месяц круглы зірне,
Абальле цішынёй крыж пахілы.

Загуляюць вятры ў ясных сьвітках сьнягоў,
Бы каляднай парою ваўчышчы.
Сярод белых лясоў, абамлелых лугоў
Рыхтаваць будуць веі ігрышчы.

Будзе сонца пякчы ўлетку жоўты пясок
На магіле сівога музыкі.
Будзе пушча будзіць: Гэй, устань, каласок!
Чаму змоўклі дударскія зыкі?

Плача бедны народ, у жалобе ўвесь край.
Льюцца горкія сьлёзы бясконца.
Валасы свае рве гарапашны ратай:
«Што пакінуў ты нас, абаронца?»

«Будуць цюкаць на нас, будуць люкаць на нас,
Будуць крыўдзіць паны, паняняты.
Наша сонца зайшло, яркі вогнічак згас,
Што рабіць без цябе, голуб-тата?»

«Аздабляў нам жыцьцё роднай песьняй сьвятой,
Працаваць было лёгка і лоўка.
Ня кідай нас, стары, пачакай-жа, пастой!
Надалей будзь вясновым салоўкай!..»

## 24. ЯК ДУДАР ГРАЎ НА НЕБЕ ПЕРАД БОГАМ, ПОТЫМ АПУСЬЦІЎСЯ НА ЗЯМЛЮ І АСТАЎСЯ ВІСЕЦЬ НАД БАЦЬКАЎШЧЫНАЙ ПАМІЖ НЕБАМ І ЗЯМЛЁЙ.

Вось памёр дзед-дудар, ці хацеў—не хацеў.
Пахавалі ля шляху-дарогі.
Нібы птушка-арол, угару паляцеў
Аж на самае неба да Бога.

Дзеду лёгка было на нябёсных палёх
Без балот, без лясоў, без вазёраў;
Было добра яму: яго слухаў Сам Бог,
Сонца, месяц, і хмаркі, і зоры.

Чараваліся ўсе, любаваліся ўсе,—
І сьвятыя дзяды і анёлы;
Зьялі вочы ў сьлязох, у надгорнай расе,—
Гэткай песьні ня чулі ніколі.

Увесь смутак балот паляшуцкай зямлі
Красаваўся пад Божым пасадам;
Гукі моцна расьлі, гукі ціха плылі,
Гукі сыпаліс сонечным градам.

Іх імкненьне расло, як імкненьне дзьвёх сіл,
Што жывуць у вячыстым змаганьні.
І праменьні жыцьця, і трухлявасьць магіл
Узышлі на аўтар шлюбаваньня.

Стары дзед-паляшук на мужыцкай дудзе
Думкі-жальбы на небе іграе,
Аб сялянскіх шнурох, аб жывой грамадзе,
Аб турботах забытага краю.

Гук ляціць да зямлі галасьней і зычней,
Ён дрыжыць паміж зор і галосіць.
«Пусьці, Божа, назад на зямлю да людзей...»—
Паляшук ціха моліць і просіць.

«Пусьці, Божа, назад... Будзеш слухаць з зямлі
Мае шчырыя, простыя гукі.
Пусьці, Божа, назад... Я тут згіну з тугі,
Спапяліцца душа мая з мукі»...

Бог грымнуў у адказ: «Ты астанешся тут,
Бо патрэбна дуда і на небе!...»
Не паслухаў дудар, захацеў у свой кут,
Ён пусьціўся наўцекі на глебу.

Паляцеў на зямлю і астаўся вісець
Паміж небам і роднай зямлёю;
І пачаў дзед малець, і пачаў дзед драбнець,
І зрабіўся ён птушкай малою.

Йдзе ратай на свой шнур і глядзіць угару,—
Песьня сэрца трывожыць, няйначай.
То пяе над ральлёй псальму-гымн на зару
Птушка-жаўранак, кружыцца, плача...

Ў сіьн-блакіце нябёс млее пурпур зарніц,
Шэрай кропкаю туліцца птушка.
На зялёнай мяжы паміж рос-агнявіц
Ладзяць срыбныя краскі задушкі.

1922 г.

## Ў ЯСНЫХ КРУШНЯХ.

Ў Ясных Крушнях у даліне
Стаіць бедная хаціна.
Як жабрачка—абарвана,
Як жабрачка—абматана
Дзе карою, дзе гальлішчам,
Дзе аздоблена карчышчам;
Замест шыбінаў—анучы,
Замест даху—лапак кучы;
Пазапханы шчэлі сенам,
Аддае гнільлём са сьценаў.
Во' рассыплецца, здаецца,
Як дзядок, уся трасецца;
Нейкім дзівам, нейкім цудам
Не рассыпалася ў груду.
Як парваныя аборкі,
Разьляцеліся падпоркі
І тырчаць ва ўсе староны
Як старыя забабоны
Ў галаве сівой бабулі.
Цесна хатку апынулі,
Як нязнаныя істоты,
Нібы злыбеды,—бядоты:
Тут абсмалены калочак,
Там пакрыўлены кіёчак,
Камень круглы і пузаты,
Слупок трухлы, сукаваты,

Воддаль засланка крывая,
Пабач цэгліна старая,
Дзьве палоўкі дна ад бочкі,
Размаітыя дашчочкі.
Гэта ўсё сям'ёй разьбітай
Вокал хаткі пазабытай
Навалілася, як бура,
Як зьнямелыя хаўтуры.

Ой, ня год і ня дзесятак,
Не адна, а многа матак
Ў Ясных Крушнях вечным ходам,
Бязупынным карагодам
Сваю долю праклiналі,
Пастушкоў як гадавалі
Для багатага маёнтку,
Для дастатку і «пожондку»
Ў акрываўленай гасподзе,
Ў ганаровым панскім родзе.

Ой, ня раз у гэтай хаце
Пралівала сьлёзы маці,
Як злы цівун бяз літосьці
Бізуном ламаў ёй косьці,
Калі сына бараніла,
Калі ў двор цягалі сілай
На пакуту і на зьдзекі,
Каб зрабіць з яго калеку
На пацеху панскім дзеткам,
Пястуном і малалеткам.

Ой, ня мала сьцены гэты
Былі жудасьцю адзеты,
Як прыгожую дачушку,
Весялушку і пяюшку,—
Ўцеху парабка старога,
Мазалістага, сівога
Пацягнулі ў панскі хорам
На ганебнасьць і на сорам.

Ой, ня раз у гэтай хаце
Гучна сыпаліся пракляцьці
Іслаўцы ядроным макам.
Ліха шмат было ды з гакам,
Нат' як паншчына сканала,
Нат' як воля тут настала
Пры цары, пры «вызваленцу».
Новых меў тут шмат штукенцаў
Селянін бяз добрай глебы,
Бяз жывёлінаў, бяз хлеба.

Цярпеў голад сын сялянскі,
Ладзіў балі сынок панскі.
З вольнай волячкі ў найміты
Горам мужычок прыбіты
Зноў пайшоў да таго пана
Працаваць да ночы з рана
На абшырным загуменьні.
Пакаленьне ў пакаленьне
Гэтак шло-плыло бясконца
Пад адвечным нямым сонцам.
Пан быў важным і багатым,—
Ланцугом зьвінеў араты,
Крушні Ясныя араў ён,
Пад ярмом цяжкім стагнаў ён.

Нейкім дзівам, нейкім цудам.
Як пракляцьце здрайцы-Юды,
Як астаткі дзён пакутных,
Адзічэлых, каламутных,
Аж да нашых лепшых часаў,
Бяз прыправак, бяз прыкрасаў,
Асталася тая хатка,—
Веку цёмнага дзіцятка.
Так стаіць бяззубай цноткай
Год мінуўшых доч-прыплодка.

Ў гэтай хатанцы ў старэнькай
З хлапчуком жыве маленькім,

З сваім Янкай-сірацінай
Гарапашная ўдавіна.
На вайне забілі мужа.
Цісьне гора, цісьне дужа.
— Што рабіці, мілы Божа?
Так ня добра, так ня гожа
Жыць на сьвеце жорсткім гэтым
Неабутай, неадзетай,
I галоднай і халоднай,
Без апоры, як ніводны...
Але гэта з-поў бядоты,—
Бо найгоршую турботу
Маю тую,—як мне, маці,
Свайго сына гадаваці?
Надыйшоў час галадухі,
Не накорміш нават мухі.
Што мне з хлопчыкам рабіці?
Трэба гадаваць, карміці,
А тут проста хоць давіся,
Хоць у рэчку йдзі тапіся...

Плача маці, плача горка
Ды глядзіць на тую горку,
Дзе палац стаіць, мільгае
I на хмаркі паглядае
Горды, белы, пекны, стромкі,
Ды ў абхваце такі ёмкі,
Як-бы цэлы сьвет ён душыць,
Як-бы сонейка варушыць.
Блішчаць вокны, ганкі, дзьверы,—
Іх так многа, іх бяз меры.
А вакол там шмат будынкаў,
Як наваленыя скрынкі,
Нібы гэблем гэбляваны,
Нібы хварбай хварбаваны.
А далей шапочуць дрэвы,
Рэчка мчыцца ўправа, ўлева
I бурліць, пяе пяюшкай,

Зьмейкай ўецца, ўецца стужкай
Па разлогах, па далінах,
Па шырокіх лагавінах
І хаваецца ля бору, —
Ў лесе з хвойкамі гавора.
Дзіва-дзіўна пляце-вяжа.
Зычыць гулка, шэпча, кажа
Свае казкі, свае байкі,
Свае цуды, свае грайкі.
Гэта—панскі рай-раёчак,
То—багаты хвальварочак,
Яснай Крушняй што завецца,
Дыванам што тут пляцецца.

Туды маці паглядае,
Свае сьлёзы выцірае:
—То-ж няма, нябёсны тата.
Там цяперка панаката.
Парабочкі цяпер самі
Там жывуць гаспадарамі,
Лоўка ладзяць гаспадарку
Ў тым пакінутым хвальварку.
Там, дзе «хаму» было цесна,—
Цяпер гулка пяюць песьні;
Дзе лілася кроў мужыча,—
Цяпер шчасьце сонца зыча.
Трэба шчыранька старацца,—
Карміць будзе сытна праца.
Зямля корміць, тых гадуе,
Хто мазоль на ёй шаруе.—
Разважае удавіна.
—Ў пастушкі аддам я сына
Гарапашнікам у рукі,
Буду мець я менш дакукі,
Выйдзе там з яго араты
Мо' ня горшы, чым у таты.
Не пакрыўдзіць найміт быўшы,
Ў беднаце сам доўга жыўшы,
Скажа слова шчыра, ціха,—

Знае сам пачым хунт ліха..
І чаму я так, сарока,
Ўсё маўчала, абібока, –
І сынка трымала ў хаце?
Ой, дурненькая я маці!

Сябе баба шчыра лае
І «ламакай» называе,
«Качаргой крывою» кліча;
Па каравых пальцах ліча,
Йшчэ як можнаназываці,
Каб у крыўдзе не застацца;
Аглядае хатку-пустку
І кусае хвост ад хусткі:
—Ну і глузд у баб трухлявы,
Розум наш, дальбог, няжвавы!

Хутка баба парашыла.
Пастушку, што трэба, сшыла,
Навучыла быць паслушным,
Быць стaранным, разварушным..
Павяла свайго сыночка,
Пястуночка, галубочка,
Ў той хвальварак да ратаяў.
Па гасьцінцы лядок таяў;
Быў дзянёчак вешні, сьветлы.
Грэла сонца шчыра, ветла,
Пелі птушкі зычна, міла,
Неба сэрца весяліла.
На зямлі з-пад сьнежных рамаў
Дзе-ні-дзе ляжалі плямы
Чорнай глебы, смачнай, тлустай,
Бы цямнелі хлеба лусты.
Хмельна пахла ўсюль вясною,—
Над далінай, над ґарою;
Ў вышыне, ў блакітнай далі
Гучна жаўранкі сьпявалі.

Завяла сыночка матка
У дом-палац бялюткі, гладкі.

Мужыкі яго прынялі
Як свайго, і загадалі
Быць у іх цяпер сьмялейшым,
Весялейшым і спрытнейшым.
У гасподзе сваю долю
Будзе мець. Няхай у полі
Акуратна пасе стадка,
Будзе мець усё ў дастатку:
Кажушочак, шапку, боты,
Будзе жыць ён без бядоты,
Будзе хлеб і будзе сала,
Будзе радасьцяў ня мала.
Як заслужыць—паліўнога
Купім коніка сівога.
Як засьвісьне—пойдуць рэхі,
Пойдзе водгул на папехі,
Затрасецца гай хваёвы,
Будзе весела каровам.
Як па дзірках пальцам стукне,
Як задзьмухае, загукне,
Як пачне ён сыпаць трэлі,—
Пачне ладзіць бор вясельле.
Будзеш, Янка, гаспадарыць
Ды ўсьвісьцёлку смаліць,жарыць;—
Пройдзе дзень у полі хутка,
Нібы хвілька, як мінутка.
А ваўкоў ты не баішся?
Ты глядзі—іх сьцеражыся!
Гэтых страшных ваўкалакаў
Запкуеш сваім сабакай.
На-цю-на! Гэй, дзе ты, шэльма?
Ганаровы ты ў нас вельмі;
Будзеш з Янкам сябраваці,
Наша стадка вартаваці!
Відаць, добры хлопчык Янка.
На-цю-на! Каб це' маланка!

Доўга людзі жартавалі
І ўдаве ўканцы сказалі:

—Янка будзе з намі жыці,
Весяліцца, ня тужыці.
А зімой ён пойдзе ў школу,
Будзе добра і вясёла.
Адукуецца твой Янка,
Будзе знаць ня горш падпанка
І пісаць і рахаваці.
Не бядуй, ня плач-жа, маці!

—Я, браткі, ад шчасьця плачу.
Бачце, Янка мой во' скача!
Падабаецца ўсё тутка.
Ну, бывайце! Пайду хутка.
Мабыць курыца зьняслася,—
Прынясу яечка Ясю.
—Ды ня бойся, ў нас кармежкі
Хопіць без твайго яечка!

Зажылося Янцы добра.
Ён вясёлы і харобры
Выганяе ў поле быдла,—
Яму праца не абрыдла,
І будзіць ня трэба зрана.
Йшчэ вакол стаяць туманы,
Йшчэ мігцяць у небе зоркі,—
Чуваць Янчына гаворка:
—Дайце мне скарэй сьнеданьне!
На-цю-на! На паляваньні
Мы з табой сягоньня будзем,
На балоце не заблудзем.
Бурчыць цюцька, жмурыць вочы,
Бо яшчэ драмаць ён хоча;
Хвастом круціць, хвастом меліць,
Зрэнкі хітрыя казеліць.
Янка трубіць, Янка звоніць,
Зычна сам з сабой гамоніць;
Гладзіць белага бычочка,
Ласуночка-трацячочка:
— Падрасьлі мо' занач рогі?—

Шмат на гэта трэба змогі,—
Трэба рогі пальцам мерыць,
Бо ня можна воку верыць.
А цялушачка тымчасам
Пазірае набак ласа,
Падымае хвост трубою,
Выгінаецца дугою.
Бярэ радасьць—ня стрымае,
Зараз пусьціцца да гаю,—
Брык і брык—і палящела.
«Што-ж ты, цёлка, звар'яцела?—
Кажа Янка, і драцянкай
Лясь і лясь пад самым ганкам.
Пуга ляскала удала.
Тут і сучка ня стрымала:
Пстрык—нагой пад вухам чэша,
Як загаўкае, забрэша,
І спрунжынай як заскоча,
Ды здаецца, яна хоча
Цэлы сьвет у міг стрывожыць.
Во' і Янку заварожыць!
Далібог, заваражыла:
Ён бяжыць, аж трашчаць жылы,
За цялушкай і за сучкай.
Ля варот ратаяў кучка
За бакі бярэцца з сьмеху
І крычыць: «Ды бойся грэху,
Янка, так скаціну мучыць
І сабаку баламуціць!
Ну, і спрыт у падшывальца,
Хоць ня большы ростам пальца!»

Дзякуй Богу, ўжо з скацінай
Брыдзе Янка па лагчыне.
Па расе сьляды ён піша,
А чарот дубцом калыша.
Гляне ў поле, абярнецца
Ды на пушчу засьмяецца:
«Го-го-го»—гушчар рагоча.

«Го-го-го»—шыр-даль якоча.
Даль туманіста, імгліста,
Гладзь нябёс над ёй кваціста;
Ў агняцьветах-пералівах
Млеюць казкі, шэпчуць дзівы.
«Шу-шу-шу»—гушчар гаворыць,
«Шу-шу-шу»—даль ціха ўторыць.
Цень глядзіць са шчылін бору,
Навылазяць страхі з нораў.
«Буль-буль-буль»—хтось балабоча.
Хтось з-пад крушанькі шапоча.
А травіца яшчэ росна.
Ў адзіноце Янцы млосна,
Ўспомінае байкі таты
Аб хвальварку аб заклятым,
Дзе людзей цкавалі псамі,
Рвалі скуру паласамі,
Бізунамі катавалі,
Без канца дзяўчат псавалі;
З бедных вопраткі зрывалі
І калоды надзявалі,
І кідалі ў муравельнік
За пагоркам, там дзе ельнік.

Страшна Янцы. Плакаць хоча.
Паглядаюць з лесу вочы,
Вочы, вочы... іх ня зьліча;
На ратунак сонца кліча.
Сонца зьяе, сонца грае,
Блішчыць рэчка залатая.
Забывае хлопец страхі,
Бачыць ў небе хмаркі-гмахі.
Ён пяе у лесе, ў полі
На шырокім на раздольлі.
Так плывуць-мігцяць дзянёчкі,
Нібы ў полі матылёчкі.

Не калінка гнецца ў гаю,
Не бярозка байкі бае,—

Дабрадзейкі, бабкі, цёткі
Носяць-сеюць байкі-плёткі,
Што ўдавіца бесу, чорту,
Злому, гідаснаму хорту,
Прадала душу людзкую,
Хрысьціянскую, сьвятую:
Аддала ў хвальварак сына,—
Ён у лапы пеклу рынуў.
Ой, бажніц няма ў хвальварку,
Праца йдзе, як па загарку;
Няма сварак, няма спрэчак,
Няма востранькіх славечак.
Там ня моляцца ніколі
Ані ў хаце, ні на полі.
Там папа не паважаюць,
Прад ім шапкі ня здымаюць.
Там праз меру ўсе лагодны,
Так ня бачыў з нас ніводны.
Гэта кепская прымета:
Злы, страшны антыхрыст гэта
Цягне ў пастку ачмурэлых,
Ашалелых, адурэлых.
Цар ангельскі едзе, скача,
Перарэжа ўсіх, няйначай;
З «велькім пэндам» пан нясецца
На стаеньніках ён прэцца.
Будзе шыбэльніц бясконца
Ў нашай змучанай старонцы.
—Забяры хлапца з хвальварку,
Прывядзі да хаты шпарка.
А то потым будзе позна,—
Людзі ў нас талкуюць розна.—

І няшчасная матуля
Затужыла аб Янулі,
Задрыжала, як асіна:
—Ня дай Бог, хлопчук загіне!
Жыцьце стала ёй ня міла,

Цёнгля сны благія сьніла:
Сьніўся вісельнік і чэрці,
Сьніўся цар, вужака, сьмерці;
На патэльні Янку скварацъ,
У катле з смалою жарацъ.
— Ой, зьвязаўся на нядолю
З Яснай Крушняй тут на полі!—
Вось надумалася маці
Свайго сына «ратаваці».
Ў лес-гушчар пашла ціхутка,
Там пачула рэхі дудкі;
То сынок сабе іграе,
Аб нядолі і ня дбае.
Падышла. Яго схваціла,
За каўнер патармашыла:
— Пойдзем, бедненькі, да дому!
Не хваліся ты нікому,
Што служыў тут!—Хлопец плача:
— Звар'яцела ты, няйначай!
Як я кіну сваё стада?
Гэта-ж будзе сорам, здрада.
Мабыць, матанька, жартуеш,—
Свайго сына пашкадуеш.
Не пайду! Рабі, што хочаш!—
— Зара, сынку, заякочаш!—
За чупрыну як матнула,
За каўнер як пацягнула,
Дык,—ці хоцькі, ці ня хоцькі,—
Пастушок пашоў упрочкі.
Вырываўся, плакаў, енчаў,
Па дарозе бедны кленчыў:
— Ой, пусьці назад, матуля!—
— Замаўчы, бо дам на дулі!..

Тры дні хлопчык прывязаны
Быў у хаце да тапчана;
Адарваўся на чацьверты
І абшорпаны, абдзерты

Паляцеў назад вясёлы,
Падкасаўшы свае полы,
Да хвальварку па сьцяжынцы,
Па зялёнай па лагчынцы.

1921 г.

## НА ГАЛЬГОЦЕ.

Жалоба і страх панавалі на ціхіх далінах,
На сьветлай расе, на квяцістых кусткох, на расьлінах,
На ўзгор'ях-скалох, на зялёных, пахучых галінах.

Жалосныя скаргі імглою над полем луналі,
Як жаўранкі-птушкі, насіліся ў сінія далі,
І вахталісь дрэвы ад стогнаў, як божыя шалі.

Туга і самотнасьці млелі, як цені паўночы.
Мігцеліся сполахі, быццам прарочыя вочы.
Ой, будуць пакутнасьці... Пан наднябёсны так хоча...

А Сын перамог і пакусы і вабы зямныя.
Ў пакутных вачох, нібы голубы белыя тыя,
Адсьветы цьвілі—то пакорнасьці думкі сьвятыя.

З грудзёў вырываліся слабыя енкі і крыкі:
«Яшчэ мукі... болей... Ты праў, Божа добры, вялікі!
Мілосны, ратуй-цёмны люд ашалелы і дзікі...»

Глядзелі ў таёмнасьці вочы Прарока і Бога:
Ён бачыў вялікую, змрочную далеч-дарогу,
Ён чуў песьню вешчую, слова анёла сьвятога.

Адвечнасьць плялася над слабым жыцьця мігаценьнем.
Ён сэрцам чытаў летапісы вякоў-лятуценьняў,
Ён бачыў душой усю процьму людзкіх пакаленьняў:

Агні і пажары, і кроў, і крыжы, і паходы,
І зьдзекі, і гвалты, зьдзічэласьці з родаў ды ў роды,—
Жывуць між сабою, як стады зьвяругаў, народы.

Крыжы залачоныя зьяюць на шоўку—ня ў сэрцы,
Для славы Магутнага сеюцца гібелі, сьмерці.
Ахвярам на полымях кажуць: «Канайце і верце!»

Пра катаў-зьвяроў яшчэ гымны складаюць і песьні
І вечна пяюць, нібы жаўранкі ў раньнюю весну...
«Яшчэ мукі... йшчэ... О, ў грудзёх маіх робіцца цесна ..»

І смаглыя вусны малітву бясконца шапталі.
Так шэпча расьліна ў падводнай празрыстай крышталі
Так волас шапоча, як б'ецца аб нож з вострай сталі.

Імёны тых гідасных—ў яркіх агнёх сьвятазьяньня.
Званы аб іх медныя звоняць свае закліканьні,
І гукі купаюцца ў хвальшах, у блудах, ў абмане.

Пакуты Яму былі рэчкай у дзікай пустэчы,—
Крык шчырай душы на праступным, разьюшаным вечы,
Прамень сярод цьмы, які зрок сьлепатою калеча.

Ён—кропелька ў моры, ці сьцерпіць за мора пакуту?
Пячэ гэтак смага—то цела сьмяротнага путы;
І замест вадзіцы далі яму келіх атруты...

І скрыдлам кажанавым, скрыдлам сьлізгучым, варожым
Цалунак агіднага Юды на вуснах палаў і трывожыў.
«О, зьлітуйся, Літасны... Мукі яшчэ. Ойча-Божа!»

І раптам злы дух безжалоснага страху сумненьня
Аблокам закрыў сяміколерны пломень надхненьня,—
І Бог-Чалавек запытаў сам сябе ў задзіўленьні:

«Ці-ж міласьць сьвятая—адна толькі кволая мара?
Ці-ж праўда пад сонцам—адзін толькі водблеск пажару?
Ці-ж шчырасьці слова—адзін толькі водгук ў абшары?»

«Навошта ім, Ойчанька, ў вочках радзіцца дзіцяці?
Навошта ім, Ойчанька, ў ліры шматструннай стагнаці?
Навошта ім, Ойчанька, краску лугоў палаваці?»

«Няхай-бы зусім ня трывожылі сэрца прарока,
Няхай-бы зусім не праменілі вешчага вока,
Няхай-бы зусім ня блішчэлі, як анёл в аблокаў!»

«О, лепей мне быці аленем у пушчы дрымотнай,
О, лепей мне быці птушынай над логам балотным,
О, лепей мне быці жывёлкай пад корнем вільготным!..»

Як макі чырвоныя, раптам крываваюцца раны.
Душа акрыляецца сілай пакуты нязнанай.
У сэрцы гаворыць ён: «Прэч, дух вялікіх абманаў!»

«Ёсьць вера, мой Пан, гэта вера—ў душы чалавека.
Ёсьць міласьць, мой Пан, гэта міласьць—ад веку да веку.
Ёсьць праўда, мой Пан, гэта праўда—адвечная лека.»

І песьняй зрабіліс страшэнныя стогны пакуты,
І мёдам гаючым—пітво злой, сьмяротнай атруты.
І сонечнай воляй—на целе вяроўкі і путы.

І сонца агнёвае сэрца Прарока спаліла.
І вецер надвоблачны глынуў Прарочую сілу,
І цуд небаколерны зьяў над Прарочай магілай.

1912 г.

## ТАМУЗ І ЕГОВА.

На высокім узгорку расьце кіпарыс,
Як прарок, пазірае ў нябёсы.
Ён магутны і стромкі. Кудзерцаў абрыс—
Пісаніна таёмнага лёсу.

Там на камені побач цар Тамуз стаіць,—
Вялічэзны мядзяны бажышча.
Чырвань тулава ярка іскравіць, агніць
Пад праменнямі сонца-агнішча.

Бог, здаецца, крывавы—купаўся ў крыві,
Алавяныя вочы казеліць.
Бог, здаецца, агнёвы—купаўся ў агні,
Страхацьцё і жуда—яго чэлядзь.

Ён глядзіць у даль ніваў, зялёных палёў,
Таямніца жыцьця ў яго сэрцы.
У цішы аняменьні ёсьць музыка слоў:
«Я—ўладар, бог багоў! Людзі, верце!»

Ён чырвоныя рукі ламае ўпярод,
А на пальцах закручаны кіпці;
Нібы кажа: «Ідзі ка мне, ўвесь людзкі род!
Мне маліцеся ўсе і ня хібце!»

Як асілак нязрачны, сьляпы вялікан,
Сваёй постацьцю поле паганіць.
Над нагамі Тамуза агнёвы туман—
Гэта вогнішча дымам туманіць.

І дым зельляў кадзіліць з-пад гідасных лап,
Ад агня медзь бажышча гарача,
Алавяныя сьлёзы з вачэй кап і кап:
Тамуз жаласна плача і плача.

У набажэнстве вялікім тры жрыцы сядзяць,
І хрыпіць і рыпіць іх стагнаньне;
Паглядаюць на бога, ад страху дрыжаць
І шапочуць свае прычытаньні:

«Бясконца плач і сьлёзы лі,
Вялікі Тамуз мілы!
Над нашай доляй беднай плач,
Над моладасьцю, сілай.

Нашы леты маладыя,
Нібы хмаркі веснавыя,
Зьнiклі—паплылі,
Ў забыцьцё пашлі.

Усемагутны Тамуз цар,
Зірні, што сталась з намі!
Ой, пашкадуй рабынь тваіх!—
Ты-бог-жа над багамі!

Нашы косы пасівелі,
Амярцьвелі, здрацянелі

Ад гадоў, турбот,
Як сухі чарот.

Памутнелі нашы вочы,
Нібы фігі ў роснай ночы.
Няружовы нашы целы,—
Нібы лісьце пажаўцелі.

Шчокі нашыя ў маршчынах,
Нібы шышкі на галінах.
Як пергамэнт нашы губы,
І ніхто іх не галубе.

Наша кроў заледзянела,
Не палае—амярцьвела.
Ой, краса, як сон, мінула,
Нібы ў хвалях патанула!

Нам жыцьцё палынь-травой.
Просім-кленчым прад табой:
Хто паможа, як ня ты—
Тамуз, божа наш сьвяты.»

Так прычытываюць прад Тамузам богам
Ведзьмы тры старыя і страшныя,
І кладуць агонь пад мядзяныя ногі;
Яркі ўецца дым у колы залатыя.

Паглядае бог у глыб нябёс туманных,
Сьлёзы кап і кап з вачышчаў алавяных.
Ведзьмы пачынаюць косы свае рваць,
У попеле качацца, голасна крычаць:

«Нам моладасьць даруй!
Нам моладасьць даруй!»

Тамуз паглядае ціхі, скамянелы,
Дажджом сьлёзы льюцца па шчаках, па целу.

Вядзьмяркі бяруцца за рукі,
Пускаюцца раптам у скокі;
Грызуцца клыкамі-зубамі

I поўныя злосьці і мукі
Крываваць і грудзі і бокі
Даўгімі, страшнымі кіпцямі.

Зялёная пена з атрутных губ валіць.
Агнёвыя ўздохі аж вочы ім смаляць.
Вужачым сіпеньнем, струёю агнёвай
Зрываюцца з вуснаў зьмяіных два словы:

«Моладасьць!
Моладасьць!»

«Мы будзем пляваць на Егову,
Мы будзем сьмяяцца з Еговы,
Мы будзем паганіць Егову!
Табе мы служыць будзем, Тамуз,
Адзін ты наш пан і цар, Тамуз,
I душы і сэрцы—Тамузу,
Ахвяры—аўтару Тамузу!
Дай нам моладасьць!
Моладасьць!»

Дзікай веяй, віхром-завірухай
Карагод ведзьмы ладзяць шалёны;
Няпрыстойны іх шпаркія рухі,
Няпрыстойны іх словы і стогны.

Вось, усюды іх многа, так многа,
Вось, нідзе іх няма тут, здаецца.
Да Тамуза, да бога нямога
Іх стагнаньне жалобай нясецца:
«Дай нам моладасьць!
Моладасьць!»

I раптам усьмешка на твары Тамуза
Мільгнула праз сьлёзы вачэй алавяных.
То—нечысьці ўсьмешка,як быццам з прымусу—
Усьмешка начніцаў на дзікіх курганах.

Спрытней скачуць ведзьмы ваколабажышча,—
Агідныя скокі, агідна ігрышча.

Паркан жывых целаў калышацца хутка,
Шапоча таёмна, шапоча ціхутка.

Тымчасам у бога Тамуза ад плачу
Ўсё выцекла волава—выцеклі вочы;
Чарнелі на твары чырвоным, гарачым
Дзьве ямы, як цёмныя цені уночы.

А ведзьмы вакол круць і верць,
А Тамуз таёмны, як сьмерць.

І ведзьмы памалу давай танцаваці,
Давай на сябе пагглядаці.
Вось сталі.—Угледзілі цуд—
Над імі ўчыніўся ён тут.
Іх рогаты звонам зьвінелі,
Бо ведзьмы у міг маладзелі:

Іх целы белы—малако,
Ружовы—макаў цьветы,
І гнучы, прухкі, як лаза,
І стромкі, як бярозкі,
Паўнюткі, круглы, бы расой
Насыценыя краскі;
А кроў у жылах аж гарыць,
Як хмельны мёд іграе.

А грудзі—пары галубкоў,
Як мармурныя урны;
Пахнучы, хмельны валасы,
Як вадзяныя травы.

У першай—чорныя, як ноч,
Як цёмны шоўк мільгае.

Ў другой—як сьветлы, мяккі лён,
Траплёны, залацісты.

У трэцяй—колер каласоў
Іскравых, рудамедных.

А вочы ў першай—вішні дзьве,
Дзьве цёмныя, дзьве зоркі.

Ў другой—блакітнасьць васількоў,
Дзьве кволыя, дзьве кветкі.

У трэцяй—глыбіня нябёс,
Два скарбы—дыяманты.

А губкі—пурпур і рубін,
А зубкі—сьнежныя пушынкі. .

Дзе ступяць дзевы крок адзін—
Лілеі там квітнеюць.

Дзе ступяць дзевы крок другі—
Крынічка там мільгае.

Дзе ступяць дзевы трэці крок—
Салоўка там сьпявае.

І гусьлі першая ўзяла,—
Б'е пальцамі па струнах.

Другая—ў дудку гулка дзьме,
Выводзіць дзівы-трэлі.

А трэцяя—у бубны б'е,
Зьвініць званочкам дробным.

Тамузў першая дала
Карону залатую.

У шчылі воч сапфіры два
Уставіла другая.

А трэцяя спляла яму
З нарцызаў срыбных пояс.

* * *

Рабакамі грахі-ліхацзеі
Затулілі узгоркі Юдэі.

Сталі блудніцы ўсюль кіраваці
І мужоў ад жанок адрываці.

Затужылі князі і старшыны
Аб нядолі аб горы краіны:

«Што рабіці, о, Божа Егова?
Ад паганшчыны дай нам захову!»

І дзесяць юнакаў ліванскіх
Паслалі спаліць страшных ведзьмаў.—
Юнакі назад не вярнуліся.

І дзесяць мужоў спрабаваных
Паслалі забіць шкодных ведзьмаў.—
Мужы там ўсе засталіся.

І дзесяць сівых вояў божых
Праклясьці паслалі тых ведзьмаў
Ад вояў ні слуху, ні духу.

Пустэльнікаў-постнікаў дзесяць
Паслалі туды на праведкі.—
Ніхто ня убачыў іх болей.

Жрацоў, ад харому сьвятога
Паслалі туды паглядзеці.—
Прапалі жрацы, нібы цені.

* * *

Плодзіліся грахі ў краіне,
Як сабачыя грыбы;
Па узгор'ях, па далінах
Сохлі нівы ад журбы.

Нечысьць саранчою-хмарай
Ела старых, маладых;
Сьмерць плыла пякельнай марай
Па сялібах па пустых.

І загневаўся Егова:
«Дзе прарок мой? Дзе мой цуд?»
І насупіў свае бровы,
Азірнуўся туд і сюд.

І рыкнуў, як леў пустачы,
І раздаўся трубны згук.
Нібы вой у дзікай сечы,
Бог нацэліў сьмертны лук.

* * *

А прарок сорак дзён, сорак ночаў
У самоце між скал вандраваў;
І крумкач, чорны птах, шчыр-ахвоча
Сілкаванне яму падаваў.

Прарок спаў на пяскох на узгорных,
Было неба яму дываном;
Дзікі зьвер слугачом быў пакорным,
Было мора яго пястуном.

Вецер поўначы нёс, як на скрыдлах,
Мужа гордага край ратаваць:
«Мой народ! ці яшчэ не абрыдла
Так бязглуздна бакі абіваць!»

«Мой народ! ты забыў свайго бога,
Агляніся хоць раз-жа кругом,—
Ты загаціў брыдой шлях - дарогу,
Натварыў у шатрох гвалт-садом!»

«Сэрца сохне ў грудзёх, нібы глінка,
Вочы сьлепнуць ад сьлёз, хмельных сьлёз;
Твае вушы тырчаць, як скарынкі,
Шарсьціною, як зьвер, ты аброс.»

«Ты у блудніц гнілых у палоне,
Ты цалуеш пясок іх сьлядоў;
І палын расквітнеў на загоне
Гарапашных бацькоў і дзядоў.»

«У палацах тваіх расамахі,
На аўтарах вужы зіхацяць;
На таржышчах гудзяць цені - страхі,
І на попеле хат тваіх сьпяць.»

«Зьнішч Тамуза гняздо і бажніцу,
Яго блудніц спалі на агні!
Над табой сонца зноў заіскрыцца,
Будуць радасьці зноў на зямлі!»

* * *

І паслухаў народ, і народ перамог:
Там, дзе Тамуз стаяў, стаіць каменны стог.
Гідкіх ведзьмаў старых сее попел віхор
Між раўнін, між далін, між палёў і між гор.
І Егова вакол уладарыць адзін
Сярод гор і палёў, і раўнін, і далін.

1921 г.

## ВЕЧНЫ АГОНЬ.

Душа і сэрца, праўда і аздоба
Народу божага, яго карона,—
Прарок,—вяшчун сьвяты,—ўтаропіў зрэнкі
Арліныя свае на пышну чырвань
Аўтара; на агонь, што цягам рваўся
Палаючым драўлякам к люстру неба;
Туды, дзе пэрламутравая брама
З аблокаў шлях тралюе к бацьку-богу.

Агонь ахвяр атулен быў у белі,
Ў абрусе з дыму. Віўся дым пахучы,
Хальбанай, ладанам хмяліўшы. Вокал
Агнішча на аўтары ён кружыўся,
Бы плойма сокалаў імпэтных, дзікіх.

Прарок ня зьвёў вачэй з іскравых птухаў,
Што ўвысь насіліс над харомам-гмахам,
Што адбівалі бель Ліванскіх горкаў,
Абшар далінаў, рэчак, пожняў. «Сьвят! Сьвят!»—
Казаў прарок у сэрцы. Водгук даляў
Адповедзь гукнуў: «сьвят! сьвят! сьвят!» І сьціша
Паўночы ў шоўк цямнявы абвярцела
Даліны, нівы, горы. На аўтары
Агнішча забуяла. Мігацела
Квяцістым макам, райскім, вялічэзным.

Прарок ня зьвёў вачэй. І што ён бачыў?—
А вось што бачыў ён: Агнёвы, пышны
Стаяў на тым аўтары леў-асілак.
Вясёлкавыя хварбы хвалявалісь
На цудна-пекным целе. Дыяманты
Мігцелі ў пасмах барады шырокай.

Мядзяна-сонечныя вочы лева
Маланкі сыпалі. Магутнасьць, гордасць
У рухах люстрыліся гожых. Вокам
Дазорным ён блішчаў на ўсход, на захад,
На поўнач і на поўдзень, і рычэў ён.

Грымоты пыхалі з атхлані-глоткі.
Будзілась неба і зямля ад страху,
І сполах сьмерці сеяўся бязьмежна.
Зьвяры і людзі, дрэвы і каменьні
Дрыжалі, як галіны пад віхорам.

— О, свой народ я бачу левам гордым!—
Казаў прарок у сэрцы. Красавала
Вясёласьць у вачох прарочых-вешчых,
Удзячнасьць у грудзях яго кіпела,
Адвага поясам яму служыла,
Душу яго купала мілаваньне.

Вось паблякнеў агонь, здрабнеў удвойчы.
Зьбяднелі хварбы на аўтары божым.

Прарок ня зьвёў вачэй. І што ён бачыў?—
А вось што бачыў ён: Агнёвы, дзікі
Стаяў на тым аўтары ліс. Калёры
Мяняліс на яго нязграбным целе:
Руды, бялявы, папяловы, цёмны,
Пажоўклы, буры, сівы, каштановы.
Няпчырасьць, хцівасьць, фальшы, сполах, роспач
Глядзелі з лісіх воч. І забрахаў ён.

— О, свой народ я бачу лісам хітрым!—
Казаў прарок у сэрцы. Красавала
Журба-туга ў вачох прарочых, вещчых,

І гнеў і злосьць ў грудзях яго кіпелі,
І слабасьць поясам яму служыла,
Душа яго купалася ў нядолі.

Ледзь мігацеў агонь. Вугліўся слаба.
З аўтара хварбы зьнікліі. Пацямнела.
Прарок ня зьвёў вачэй. І што ён бачыў?—
А вось што бачыў ён: Ляжаў падцёлак
На божым на аўтары златакуты.
Вачыма сытымі глядзеў у цемень.
Пажоўклы блеск металу одсьвет сеяў—
То золата агідны, бледны промень.

Падцёлак чалавечай гордай мовай
Загаварыў: «Чалом перада мною
Усе! Я—бог нябёсаў і зямліцы!
Мне фальшам вы служыце, грэхам, блудам,
Крывёй! Маліцеся ўсе мне! Адвечна
Грызьці вы будзеце мянè—а голад
Ня сьціхне. Цёпгля піць мой сок атрутны
Вы будзеце— а смага не пяройдзе.
Заўсёды будзеце капаці скарбы
Мае—ўсё будзе мала. І над вамі
Нябёсы будуць з медзі. І пад вамі
Маць-глеба будзе з скалак. Рэчкі поту,
Крыві, смалы затопяць вашы хаты.
Праклёны сьмерці вас агорнуць цьмою!»

— О, свой народ, як быдла, я тут бачу!—
Казаў прарок у сэрцы. Красавалі
Агні жуды ў вачох прарочых вешчых.
Абурэньне ў грудзях яго кіпела,
Балючасьць поясам яму служыла,
Душа ірвалась з гора на кавалкі.

Цямнютка-цёмна на аўтары стала,—
Ад полымя ні знаку і ні сьледу.
Прарок ня зьвёў вачэй. І што ён бачыў?—
А вось што бачыў ён: На тым аўтары
Ляжала вужам блудніца-жанчына.

Бяз вопратак на попеле халодным.
Віселі грудзі, як пустыя торбы,
А валасы скалмачаныя прэлі;
Сукой пабітай брыдка выгіналась,
Вачыма цмока ўкол сябе ўзіралась,
Распусным голасам сьпявала песьню:

— Я прадаю душу сваю і цела!
Хто хоча—хай ляжыць са мной ў любові
Ля бойніц мест, на торжышчах, пад храмам.
Належу ўсім—хто плаціць мне дынары,
Сабе самой я толькі не належу.—

— О, свой народ, як блудніцу, тут бачу!—
Казаў прарок у сэрцы. Красавалі
Крыніцы сьлёз ў вачох прарочых, вешчых,
І кроў ад ран ў грудзёх яго кіпела,
Жалоба поясам яму служыла,
Яго душа купалася ў пакуце.

І вопраткі свае прарок парваў на шматы,
Хаўтурны звычай рыхтаваўся ладзіць.
Прарок ня зьвёў вачэй. І што ён бачыў?—
А вось што бачыў ён: Зарніца ў небе.
Усходзіць сонца. Голуб беласьнежны
Лунае над аўтарам і гаворыць:

«Спакой і міласьць я людзям дарую,
І будуць чысты й рады ўсе, як дзеці.»

Прарок ад сэрца крыкнуў слова «аман»!
Сьвяціла сонца над аўтаром божым.

1921 г.

## Г О Л А Д.

I.

Мяцеліца выла.
Апранута ў белую сьвітку
Сьцюдзёнай зімы
Дзіка-жуткаю ведзьмай

Мяцеліца ймчалась па сівай пустэчы.
І брызгі ільдзяныя мглы срыбна-мутнай
Сяваліся вакола з застыўшых яе
Страшных бельмаў.

Мяцеліца ў правай рупэ
Адзічэлы трымала Мароз,
У левай рупэ шчытна Сівер
Хаваўся.

Мароз выглядаў расамахай
З агнёва-сапфірным узрокам.
Ён шэраніню сыпаў
І ляскаў клыкамі.

А Сівер меў выгляд
Жывой цёмна-сівай арліхі.
Ён дзюбам сталёвым вастрыў
Спрунжыновыя кіпці.

Ў заўлоньні Мяцеліца
Голад туліла:
То клык быў пажоўклы,
Гнілы.

І клык гэты рос,
Падымаўся у рог у аленьні.
А з рога ён вырас у дрэва,
Якое стаяла між небам
З зямлёй і труіла паветра.

У высахшай, смаглай губе
Злой Мяцеліцы-ведзьмы
Гнязьдзілася сьмерць.

Бясколерная параю,
Ценем бязвыглядным
Гойсала Сьмерць.

Хто дыхаў паветрам,
Атручаным Сьмерцяю,—
Адразу канаў.

Над бялявымі гурбамі сьнегу
Мяцеліца-ведзьма насілась
На Жудасьці скрыдлах.

А Жудасьць падобна была
Да камяты-мяцёлкі
З мядзянымі дошкамі-скрыдламі.

Гулка зьвінелі і дзынкалі скрыдлы,
Як бляха сарваная ветрам
З высокага даху.

Шырокім шкляным абрусом
Над ведзьмай плыла
Ашалеласьць.

Стаяла між небам з зямлёй
Ашалеласьці злой сьветазмрочнасьць.

І спала ў заховах жар-сонца
Паўднёвай гадзінай.
І спаў у заховах жар-месяц
А поўночы сумнай.

II.

Мяцеліца выла.
І ціха-галоснае водгульле
Дзікага стогну яе
Буйным градам браждкала
Аб сьцены нямыя
Дрымотных абветраных даляў.

Насілася ведзьма-Мяцеліца,
Зблутала неба з зямлёй
У вадзін дзенна-ночны адсьвет.
І збаўтаным вялікім яйцом
Увесь сьвет выглядаў.

А сьнег,
Як пякельная манна,
Як шрот сьлепа-белы,
Сяваўся з высотаў імглістых

На шэрыя хаты,
На смутна-самотныя весі.

Вялізны, нябачны павук
Гэта ткаў мягка-прухкія коўдры.
Вялізны, няведамы цмок
Гэта комамі сьнегу пляваўся.

III.

І Сьцюжа, і Голад, і Жудасьць,
Ашалеласьць і Сьмерць
Маячылі ў хатах
І ладзілі пір па ўсіх весях.

Сьцюжа людзей маразіла,
Кідала дрыготы на грудзі,
І комкала бедных
У лёду кавалкі,
Чаруючы вочы дрымой
Забыцьця і кананьня.

А голад смактаў у людзей
Сок жыцьця.
У дрынголі сушыў іх,
І зубы галодных малоў жарствякамі;
Ім рукі і ногі круціў
У сукі старай вольхі,
Ён гладзіў і песьціў пухліну
На тварах старнеўшых
І сьцёбаў па карках і жэбрах
Драцянкамі пошасьцяў-мораў.

А Жудасьць людзей выганяла
З жалобных гасподаў,
Жаль-літасьць труціла
У бацькоў да дзяцей,
У дзяцей да бацькоў,—
На дзікіх і лютых зьвяроў
Жудасьць людзей парабіла.

Апалеласьць кадзіліла
Ў вочы людзкія
Жывіцай-смалой няпрытому.
На жоўтым пэргамэнце твараў
Вочы расьлі, нібы макавы цьвет,
Нібы порхаўкі, лезьлі з падлобу,
І пучыліся страшна,
І дзіўна блішчалі.
У зрэнках сьвяціліся:
Роспач, жалоба, страхоцьце,
Воўчая смага, сабакі пакора
І тупасьць гаўяды.

IV.

Грамады галодных людзей
Даядалі астаткі збажыны
У зьмешку з карой.
Елі дохлых жывёлін,
Сабакаў і коняў.
Як сьліўні пад пнямі,
Качаліся па голай зямлі
І чвакалі гліну.
І грызьлі адзін аднаго.
І рэзалі дзетак
І мяса худое глыталі.

Сьмерць крокамі ціхімі
Йшла-вандравала
Па трупах па голых,
Якія бадзяліся па хатах,
Па шляхах-пуцінах,
Як крушні на полі.
А рук не хапіла хаваці
І ладзіць хаўтуры.

А мала хто сам дабіраўся
Да брацкай магілы,
Каб легчы у шэраг,—

У чэравах воўчых
Знаходзілі могліцы трупы;
І мёртвыя вочы
Прысмакам былі груганішчам.

І княжыла Ціш па сялібах,
Бо жменькі малыя
Істотаў людзкіх засталіся:
На пальцах дзіцё пералічыць.
Пляліся так дні павуцінай
Адвечнага часу.
Ішоў маладзік пуцявінай
Бясхібнай па небе,
А ветах сьляды замятаў.

V.

А часам здалёку,
Як быццам з чужой
Шчасьлівейшай плянэты,
Па карку мярцьвяцкага поля
Імчаўся вужака-цягнік.

Па чыгунных уцотных
Чарнопісах-рэйках
Наперад свой шлях доўга-цяжкі
Вужака-цягнік пракладаў.

Рыгаў пры гэтым
Іскравістым сопатам-дымам,
Пляваўся агнёвымі птухамі,
Кашляў, як хворы,
Хрыпеў, як сухотнік,
Іржаў жарабцом буйна-палкім
І выў, нібы воўк на Каляды.

У вужакі ў кішках,—
У каморах драўляных,—
Ад нізу да верху ляжалі
Голыя трупы;
Ляжалі, як бітыя качкі
Пасьля паляваньня.

I розныя колеры мелі яны:
Чырвоныя, жоўтыя, сінія,
Чорныя, белыя, ў плямах.

I рухі застыглі,
Спляліся ў круць-верці:
Смага іх комкала,
Гнула, хіліла
Ў лазовыя віткі,
Ў спружыны з касьцістага мяса.

VI.

А часам здалёку,
Як быццам з чужой
Болей жуткай пусьцечы,
Як Сьмерці пустыр,
Зьвера-людзі сюды пранікалі.
Чырванелі іх сытыя морды,
Круглелі і масьліліcь.
Ком сала моршчыў іх каркі,
Іх тулавы пучыліcь гідка,
Як тукам набітыя бочкі.

I дзіва:
У сыта-ўздаволеных зрэнках
Голад вугліўся.
Ня голад бясхлеб'я смактаў
Зьвера-людаў,—
Смага па мёртваму золацe,—
Голад багацьця.

Чым болей гарусьцілі золата,—
Тым болей буяла іх смага.

У тыглях-гаршкох,
На вуглёвым сінь-полымі
Кіпела баўтуха
З крыві, горкіх сьлёз
I гарачага поту:
Золата.

Як блудніцы, гульні-піры
Звера-людзі на трупах
Людзкіх рыхтавалі.

Бо ў золаце ёсць
Сіла-моц,
Дух шчасьця,
Гонар зямлі,
Ўсяго сьвету.

Прад золатам заўжды
Цар гнуў калені з пакорай,
Князь ногі рабу цалаваў,
А мудрэц-патрыярха
Пасмай сівых валасоў
Лужыны чысьціў.

## VII.

А сіла-моц золата
Заўжды аплецена хвальшам;
Дух-шчасьце такога мэталу
Прыдушаны поясам хлусу.

Бо трупы зямлю аглушылі надоўга,
Бо саха абівае бакі
У сарочцы іржы,
Ня кусае клыкамі жалезнымі
Чорных грудзей
Пладатворчай карміцелькі—
Глебы.

Бо сад гарапашных ратаяў.
Высеклі чыста, дашчэнту.

## VIII.

І вось зьвера-людзі
Кідалі золата ў лужы,
Шапочучы, стогнучы:
— Хлеба!

І вось зьвера-людзі
Грызьці пачыналі дыямэнт,
Равелі і войкалі:
— Хлеба!

І вось зьвера-людзі,
Бы ў восені мухі, канаці
І вылі на золаце:
— Хлеба!

І вось зьвера-людзі,
Як дохлыя псы на гнаішчы,
Гнілі на пасьцілках
У золаце, ў шоўку, ў ядвабах.—
Голад і золата ссыліў.

IX.

І сонца зірнула
Спаміж шэрага стада аблокаў
Чырвоным, праменістым
Сэрцам нябёсаў.
Зірнула з гары на пусьцечу
Й нанова схавалась.

І смутак і цішы луналі
Над мёртвым абшарам.

І хтосьці агнёвай рукой
На паргамэнце неба пісаў:

«Чаму вы пакінулі ніву,
Сяляне-ратаі?
Чаму вы насыцілі мясам
Пяскі і балоты?

Чаму вы паілі крывёю
Даліны нямыя?

Жар-сонейка ўстане і гляне,—
А вас тут ня будзе;

Жар-сонейка сядзе і гляне,—
А вас тут ня будзе:

Жар-сонейка ляжа і гляне,—
А вас тут ня будзе;

Так пойдзе сваёй чарадою
За месяцам месяц.

Ой, зьлітуйся, маці-зямля,
Над дзяцьмі--над людзямі!
Ой, зьлітуйся, люд, над зямлёю,--
Над роднаю маткай!»

1922 г.

# ЗЬМЕСТ.

## ЗАЧАРОВАНЫ КРАЙ.



Р. П. № 156. 1 Сав. друк. № 2700